PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 29 (1992) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 17 ЛІПЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## КАНЕЦ ШКОЛЬНАГА ГОДА Ў РЫБАЛАХ

**Канец і слава Богу!**

— гэтыя словы завяршаюць сутнасць сённяшняй малітвы, — сказаў айцец Рыгор Сасна ва ўрачыстай пропаведзі да вучняў і настаўнікаў Пачатковай школы ў Рыбалах.

— Падзякуйма Богу за тое, што Гасподзь даў здароўе, даў нам сілы і мы 10 месяцаў маглі вучыцца, працаваць і хваліць Госпада Бога. Узнясем гарачыя малітвы, каб Гасподзь Бог паблаславіў нашу працу і за тое, каб вы з новымі сіламі і верай вярнуліся ў вашу „хату” — навуку, ужо на адну ступень вышэй. Падзякуйма настаўнікам нашым, бо і ў Святым Пісанні апостал Павел сказаў: „Успамінайце настаўнікаў вашых, якія клапаціліся аб душах вашых”.

Айцец Рыгор пажадаў усім таксама ўдалых канікулаў і добрага здароўя. Пропаведзь была сказана на беларускай мове (стылізаванай, на тутэйшым дыялекце). Уражанне было непаўторнае. Не часта нам, беларусам, даводзіцца пачуць родную мову ў царкве. Здаецца, што прысутныя не звярнулі на гэты факт ніякай увагі.

На малебен прыйшлі амаль усе праваслаўныя вучні. Некаторыя „не паспелі”, з-за чаго хвалявалася пані дырэктар Яўгенія Грыб.

Каталіцкія дзеці ў тым жа часе маліліся ў касцёле, што ў Трычуўцы. Разам з імі паехалі і праваслаўныя сябры, якім у Рыбалы было „не па дарозе”. Апрача ксяндза Радзевіча прысутнічаў там праваслаўны святар з Кажаноў. Уся цырымонія адбывалася на польскай мове.

У Рыбалах маладыя прыслужнікі — хлапчукі з гэтай жа школы. У царкве ў гэты дзень прысутнічалі паломнікі, якія збіраліся ў Яблачын. Пасля малебна вучні ўручылі кветкі і шакалады (бо тут такі звычай) айцу Рыгору і псаломшчыку Славаміру Аўксецюку. Яны навучалі праваслаўнай рэлігіі. Варта адзначыць, што яны на ўроках рэлігіі прывівалі вучням пашану да сваёй роднай мовы. Сёння таксама між вучнямі і настаўнікамі рэлігіі не было псіхічнага бар'ера і ўсе натуральна гаварылі на тутэйшым дыялекце. Дзеці заявілі мне, што рэлігію вельмі любяць. З гэтага прадмета назбіралі найбольш шасцёрак.



*Айцец Рыгор Сасна пажадаў усім удалых канікулаў.*

**Другая частка**

ўрачыстасці пачалася ў 10 гадзін раніцы. Вярнуліся таксама і тыя, якія маліліся ў касцёле. Школа напоўнілася вясёлым гоманам. Дзяўчаты і хлопцы былі святочна прычэсаны і апрануты. Можна заўважыць, што наступіў адыход ад традыцыйнага, чорна-белага касцюма. Святочнасць падкрэслівалі незлічоныя букеты кветак і гурбы шакаладаў. Бацькі прыйшлі таксама пaглядзець на сваіх дзяцей.

Урачыстае адкрыццё „заканчэння” пачала пані дырэктар. Прывітала яна ўсіх прысутных і запрасіла паглядзець мастацкую частку. Самыя таленавітыя вучні (ад 2 да 6 класаў) выступілі з канцэртам. На гармоніку іграў настаўнік Віктар Ануфраюк, а вучні спявалі і дэкламавалі вершы. Прагучалі агульнавядомыя песні як: „Żegnaj nam szkoło kochana”, „A co to jest szczęście” і іншыя ў падобным стылі. Ніводнага беларускага акцэнту! Каму застанецца слаўная спадчына „Хлопцаў-рыбалоўцаў”?

Ва ўсім цывілізаваным свеце моладзь захапляецца фальклорам і своеасаблівасцямі рэгіёна. У Нямеччыне вялікая колькасць адукаваных людзей гаворыць на дыялекце і гэта ўспрымаецца як вельмі пазітыўная з'ява.

Што ж, нашыя дзеткі ў „polskim” сцэнічным афармленні выглядаюць смешна. А нармальнасці трэба пачакаць яшчэ сто гадоў.

**Вучні тут таленавітыя**

Аж 18 навучэнцаў атрымалі пасведчанні з вылучэннем (з чырвонай палоскай). Многія атрымалі ўзнагароды. Сярод найлепшых класаў апынуліся: 6 клас (7 пасведчанняў з вылучэннем і 10 узнагарод), якім кіруе настаўніца Еля Мордань і 8 клас (6 пасведчанняў з вылучэннем і 7 узнагарод), якім кіруе дырэктар Яўгенія Грыб. Усе кніжныя ўзнагароды купіў бацькоўскі камітэт.

Ва ўсёй школе не перайшлі ў наступны клас толькі 2 вучні. Аднаго перавялі „ўмоўна” г.зн. з адной 1, што дазваляецца раз на 8 гадоў.

Трэба адзначыць, што 13 выпускнікоў збіраюцца паступаць у сярэднія школы. А ў першы клас прыйдзе 8 першакласнікаў. Новы школьны год пачнецца таксама з малебна.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**



*Вучні спявалі і дэкламавалі вершы.*

<u>Беласточчына пасля выбараў</u>

## ПЕРШЫЯ ПЕРСАНАЛЬНЫЯ РАШЭННІ Ў БЕЛЬСКУ

4 ліпеня, у дзень незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі, прайшло пасяджэнне нававыбранае Гарадское рады Бельска-Падляшскага. Настрой, як і выпадала б у такі дзень, быў святочны. Кветкі, усмешкі, ветлівасць.

Адзіным чалавекам, які моцна папрацаваў у гэты дзень, быў бурмістр. Прачытаў ён доўгі, падрабязны даклад пра бюджэт горада. З мора прыведзеных лічбаў у расслабленую гарачынёй памяць урэзалася толькі, што ад новага года да 20 чэрвеня ў Бельску зладзілі 94 сабакі. А што з імі зрабілі (на мыла?), гэтага ўжо ў дакладзе не было.

Хто выйграў выбары можна было здагадацца адразу, увайшоўшы ў залу. З самага заду, сціпла прыціснуўшыся да сцяны, сядзелі 3 праваслаўныя святары (па адным ад царквы), а каталіцкага не было ніводнага.

Зразумела затым было, што ў гэты дзень вырашальны голас — за Бельскай кааліцыяй. Нікога не здзівіў рэзультат галасавання на старшыню рады. 18-цю галасамі супроць 10-ці перамог свайго кандыдата з каталіцка-правай „Jedności” Анджэя Шмурло (той самы, што звальняў з бельскага ПКС праваслаўных) **Васіль Ляшчынскі.**

Наконт дэлегатаў у самаўрадавы сеймік можна было б яшчэ дагаварыцца, але апазіцыя заўпарцілася вырашыць гэта зараз жа, на першай сесіі. Ну і сталі імі радныя ад Бельскай кааліцыі: Пётр Кандрацюк і Сцяпан Мікалаюк.

Больш персанальных пытанняў на гэты дзень не прадбачалася, дык радныя, для прыліку, рашылі падыскутаваць крыху пра справы другарадныя — колькі пры радзе будзе камісій і якія ды ў які спосаб і калі выбіраць бурмістра. Каб не псаваць святочнага настрою, старшыня Ляшчынскі вырашэнне гэтага апошняга пункта перанёс на наступны дзень, аб'яўляючы, што сесія будзе працягвацца 5-га ліпеня ад 16 гадзіны (на жаль, пасля самага апошняга тэрміну здачы ў друк гэтага матэрыялу).

Хаця ў кулуарных размовах ад нікога не ўдалося выцягнуць прозвішча будучага бурмістра, можна было пачуць шмат цікавага. Ежы Шунэйка з Саюза левых дэмакратаў, які ведае амаль усё пра горад і яго жыхароў, падлічыў, напрыклад, што працэнтны паказчык сяброў былой Польскай аб'яднанай рабочай партыі вышэйшы ў падтрымліванай Каталіцкім касцёлам „Jedności”, чымсьці ў праваслаўна-левай Бельскай кааліцыі. „Там на дзесяцёх, аж сем былых партыйцаў і то зусім не радавых”, — даказваў ён, падрабязна апісваючы паасобныя кар'еры.

Першыя пасады ў Бельску размеркаваны. Пакуль што пераможная кааліцыя галасуе згодна. Як будзе далей — пабачым і пастараемся апісаць. А пакуль, мне самазадавальненне дае той факт, што я прадбачыў немалаважную ролю Васіля Ляшчынскага ў Радзе і інтэрв'ю з ім паявілася ў „Ніве” напярэдадні вышэйапісанай сесіі.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

*Пра сесію ў Дубічах-Царкоўных чытайце на стар. 3.*

# З МІНУЛАГА ТРАСЦЯНКІ

Дарогі на пачатку вёскі з боку Заблудава і Беластока разыходзяцца. Адна вядзе ў Пухлы, другая — у Сацы, а шаша паварочвае ўлева і ўліваецца ў асфальтаваную вясковую вуліцу. З правага боку застаецца наймаладзейшая частка Трасцянкі — Ставоцкае, якая сваю назву ўзяла ад суседняга ўрочышча Ставок. Далей вуліца спускаецца з горкі. Тут відаць яшчэ ўзор даўняга будаўніцтва. Дамы стаяць шчытамі да вуліцы, каморамі ды сенямі на поўнач, каб не даходзіла туды сонца і каб панаваў халадок. Як вядома, камора была калісьці адзіным месцам перахоўвання харчоў ды запасаў спажывецкіх прадуктаў. І яшчэ шматлікія шчыты і навугольнікі ўпрыгожаны разьбой у дрэве. Далей вуліца пайша нізам, у даліну. За вёскаю дарога раздвойваецца — налева ідзе ў Сакі, направа — асфальтаванай шашой бяжыць у Гайнаўку, у Белавежу.

Трасцянка... У старых дакументах яе назву пісалі *Трасцяніца, Тростяніца*. Яна выступае ў рукапісных матэрыялах ужо з 1576 года. Нямногае ў гэтым змянілася, бо па сённяшні дзень мясцовыя жыхары ды з навакольных вёсак гавораць *Тростянка*. Яна моцна нагадвае слова трыснёг, што ў мясцовай гаворцы гучыць *тросніk*. З аднаго боку вёскі плыве даволі шырокая рака Нарва праз нізкія лугі, з другога — Рудня, Малынка, Трасцяніца. Было тут некалі вельмі мокра, дрыгвіста і расло многа трыснягу. Назва Трасцянка тапанімічная ад назвы рачулкі Трасцяніца (правы прыток Нарвы), гэтая ж абазначае раку, паросшую трыснягом або інакш трысцём, пераплываючую цераз трысняговыя зараснікі.

У 1541 годзе ў Трасцянцы была ўжо парафія і свая царква, якая ў далейшым адыграла вялікую ролю ў развіцці школьніцтва, апрача таго памешчыцкі (панскі) двор і маёнтак. Пра мінулае мясцовасці гавораць помнікі старыны — урочышчы ды звязаныя з імі легенды. А ў Трасцянцы іх нямала: Дворшчына, Вуйтоўшчына, Красніца, Корач, Моргі, Музыковэ, Пэчыска, Разбоіска, Ставок, Рагазоўка, Чэркас.

Пра некаторыя з іх па сённяшні дзень можна пачуць цікавыя легенды. Напрыклад Музыковэ. Гавораць, што аднойчы ішлі хлопцы і пачулі, як побач нехта прыгожа грае. Павярнулі — а там забава, танцы. Давай гуляць і аркестры плаціць. Потым усё раптоўна прапала, знікла. З гэтага часу і назвалі Музыковэ. Альбо возьмем Разбоіска. Даўнымдаўно ў гэтым месцы нападалі на праезджых і грабілі. Аднойчы напалі і забілі двух яўрэяў-гандляроў. З таго часу тут страшыць і зводзіць з дарогі.

Жыхары Трасцянкі займаліся землярobствам, рамяством, у тым перш-наперш гарбарствам і кушнерствам, а таксама гандлем. Зведаўшы, што, прыкладна, жыта, авёс, бульба ў нейкай мясцовасці даражэйшыя чым тут, вязлі гэты тавар часам вельмі далёка.

Вялікую ролю на асветнай ніве ў Трасцянскай акрузе адыграла царква, яе святары. Арганізавалі нават навучальную ўстанову, якая рыхтавала настаўніцкія кадры для царкоўна-прыхадскіх школ. Першую тут школу заснаваў мясцовы настаяцель а. Рыгор Сасноўскі ў сваёй плябаніі ва ўрочышчы Ставок. З часам гэты бадзёры святар і яго сын Флор заснавалі школы граматы, між іншым, у Пухлах, Давідавічах і Целушках. Школу са Стаўка перанеслі ў Трасцянку, калі толькі тут паставілі школьны будынак. Дзейнічала ў Трасцянцы міністэрскае народнае вучылішча. Пры ім адкрылі таксама нядзельную школу для дарослых, у якой на дзве змены займалася каля 400 асоб. У сяле было тады 150 дамоў і каля тысячы жыхароў. Візітатар народных вучылішчаў 11 снежня 1885 года даў высокую ацэнку дзейнасці нядзельнай школы ды дзевяці царкоўна-прыхадскім школам у Трасцянскай парафіі, у якіх займалася 156 дзяцей. У вышэйзгаданых школах вучыліся дзеці з Сацоў, Бялок, Цялушак, Агароднікаў, Сакоў, Іванкаў, Анцутаў і Давідавічаў.

У 1887 годзе пачала рыхтаваць педагагічныя кадры настаўніцкая семінарыя ў Трасцянцы. Вучоба трывала там шэсць гадоў. Першы год быў падрыхтовачным, потым першы і другі класы, у якіх вучоба трывала па два гады і адзін год у апошнім класе спецыяльна для настаўнікаў. У 1890 годзе ў семінарыі займалася 98 асоб. Для дзяўчат адкрылі клас навучання рукадзеллю, а для юнакоў — клас практычнага абучэння сельскай гаспадаркі: садоўніцтву, пчалярству, агародніцтву, гаспадаранню на лугах, прывучанню да лепшай апрацоўкі зямлі. Практычныя заняткі праходзілі ва ўрочышчы Ставок, дзе быў адведзены пад гэта спецыяльны палетак.

Ва ўзорнай школе ў Трасцянцы быў уведзены курс абучэння рамяству. Апрача ткацтва, разьбы па дрэву, малявання, пазалоты іканастасаў вучылі таксама рысавання і чарцяжу. Якраз разьба, якую вялі ва ўзорнай школе дзе садоўніцтва, якому абучалі ў настаўніцкай семінарыі і спрыялі развіццю дэкаратыўнай разьбы дзе закладанню садоў. Трасцянка славілася сваімі садамі на ўсю ваколіцу. На некаторых сядзібах да нядаўна раслі яшчэ старыя фруктовыя дрэвы — след даўняга садоўніцтва.

Папулярнасць школы з году ў год узрастала. Калі школьныя будынкі ў Трасцянцы сталі цесныя, тады — а было гэта ў 1890 годзе — будуюць новую двухпавярховую школу і інтэрнат у Стаўку. Школа праслаўлялася добра арганізаванай практыкай. Практычныя заняткі праводзіліся ад пачатку вясны да глыбокай восені ў садзе, пасецы і полі.

З самага пачатку І сусветнай вайны ў Трасцянцы наступае перапынак у навучанні. У канцы 1914 года вёска пачала пусцець. Многія выехалі ў глыб Расіі. І гэтак было да 1918 года. Потым некаторыя ранейшыя жыхары вёскі вярнуліся з бежанства.

Да 1922 года школы зусім не дзейнічалі, а пасля прыезджымі настаўнікамі пачала праводзіцца палітыка паланізацыі. Толькі ў 1939 годзе ў Трасцянцы адкрываецца беларуская школа. Вучацца ў ёй дзеці таксама з суседніх вёсак. У навучальным годзе 1940/1941 школа налічвала аж 180 вучняў. Потым успыхнула зноў вайна. Школу закрылі.

У 1942-1944 гадах у Трасцянцы дзейнічала нямецкая жандармерыя. Жандары забілі дзесяткі чалавек з Трасцянкі, Бялок, Пухлаў і Сацоў, а таксама з іншых навакольных вёсак, між іншым падчас аблавы ў Лядскай пушчы і ў вёсцы Ахрымы. Арыштавалі яны ў Бялках, Сацах і ў Трасцянцы 32 асобы, з якіх загінула дзевятнаццаць. На прымусовую працу ў Германію вывезлі 137 чалавек з Анцутаў, Бялок, Пухлаў, Сацоў і Трасцянкі. Не вярнулася адтуль дванаццаць жанчын і мужчын.

У 1950 годзе ў гэтай вялікай вёсцы (у 1935 годзе тут пражывала 1030 чалавек і ў 1945 — 850) заснавалі цагельню і ў 1957 годзе — кафлярню. На жаль, працавалі яны коратка. Апошняя з іх згарэла ў 1959 годзе.

У 1958 і 1959 гадах правялі электрычнасць і паклалі асфальт на шашы ў двух напрамках: у Гайнаўку і ў Заблудаў ды далей — у Беласток. У вёсцы праклалі таксама тратуары. У 1962 годзе пабудавалі краму і годам пазней пачалі будаваць рамізу (дэпо) для пажарнай каманды. У 1964 годзе тут адкрылі клуб прэсы і кніжкі.

Трасцянка, не ўлічваючы самой Нарвы — найбольшая вёска ў гміне. У 1980 годзе пражывала тут 574 чалавекі, а ў 1992 — 362. Маюць тут сваю прыгожую мураваную школу (ад 1959 года), пошту, асяродак ахвовы здароўя. Раней, недзе дзесяць гадоў таму, тамашнія гаспадары абраблялі яшчэ поўнасцю 637 гектараў грунтаў (зямельных угоддзяў).

У Трасцянцы дзеці любяць сваю родную мову, мову, якую ўзялі ад бацькоў, мову, на якой упершыню пазнавалі акружаючы свет. Цікавыя ўрокі ў школе прывіваюць цягу да знаёмства з беларускай літаратурай. За шматлікія гады сваёй працы школа дала нашай краіне шмат настаўнікаў, інжынераў, лекараў.

Апошнім часам Трасцянка старэе. У вёсцы ўсё менш і менш застаецца моладзі. Вельмі змянілася дэмаграфія! І яшчэ адно. Зараз наглядаецца негатыўная з'ява — гаспадарчы застой.

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

# САБАКІ НА ШЛЯХУ

У Белавежскай пушчы існуе некалькі турыстычных шляхоў. Адзін з іх знаёміць з месцамі пакутніцкай смерці жыхароў Белавежы, якія загінулі ў часы апошняй сусветнай вайны. Знаходзяцца яны на Белавежскай паляне і ў прылеглых партыях пушчы; сам жа шлях пазначаны чырвоным колерам. Некаторыя турысты ахвотна вандруюць па гэтаму маршруту, каб заадно пазнаёміцца і з самой Белавежай.

І, вось, калі яны апынуцца на вуліцы Вайцяхоўка, іх сустракае неспадзяванка, пра якую ні гу-гу ў турыстычных даведніках. Гэта сабакі трох ці чатырох гаспадароў, якія маюць звычку (сабакі, не гаспадары) вылежвацца пасярэдзіне пясчанай вуліцы. Калі чужы прахожы хоча іх абмінуць, яны з брэхам кідаюцца на яго і калі той не мае чым абараніцца, у найлепшым выпадку выходзіць з гэтай сустрэчы з парванымі нагавіцамі. Але што цікавейшае — не здараецца, каб уласнікі сабак, знаходзячыся якраз на панадворку, у нейкі спосаб рэагавалі на паводзіны сваіх гадаванцаў. Яны прыкідваюцца, быццам бы зусім не заўважаюць здарэння.

Тыя ж самыя праблемы мае кожны, хто захоча прайсці ці праехаць (напрыклад, на веласіпедзе) згаданай вуліцай. Я сам гэтага дасведчыў, калі правяраў скаргу турыста са Згажэльца, якому сабака (жоўты) парваў адну калашыну штаноў і пакусаў боты.

Варта, каб гмінныя ўлады нарэшце пацікавіліся гэтай справай.

ПЁТР БАЙКО

# АСЦЯРОЖНА З „МІФАМІ"!

Прачытаўшы адгалоску-ліст Янкі Добаша ў 24 нумары „Нівы" я адразу зразумеў, што такі чалавек, як сп. Янка ніколі не мог сказаць такія словы: „Ніва" непатрэбная, бо ў ёй няма чаго чытаць!"

Сам ліст сп. Добаша ярка даказвае, што ён — адданы беларус. А калі нехта ў будынку школы ў Орлі сказаў гэтыя непрыстойныя словы, што „Ніва" непатрэбная, той „Ніву" не чытаў ніколі і не чытае, так як піша ў сваім адказе Ганна Кандрацюк.

Я ад сябе дадам, як лістаноша-прапагандыст і любіцель „Нівы", што менавіта сярод беларусаў можна пачуць падобныя словы, якраз сярод тых людзей, якія „Ніву" ніколі не выпісвалі, і цяпер яе не купляюць і не чытаюць яе абсалютна ды не цікавяцца, што ў ёй можа быць надрукавана. Гэта прыклад з маёй штодзённай паштарскай працы.

Кепскімі словамі можна пакрыўдзіць сумленнага чалавека. Не паўтарайма гэтых „міфаў"!

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

Беласточчына пасля выбараў

# У ДУБІЧАХ-ЦАРКОЎНЫХ

У гміне Дубічы-Царкоўныя штогод памірае каля ста чалавек, а нараджаецца толькі каля дзесяці. 2700 жыхароў гміны жывуць галоўным чынам з рознага тыпу пенсіяў. Выратаванне гміны ад павольнага канання стала асноўнай тэмай выбарчай кампаніі, якая ў Дубічах-Царкоўных і навакольных вёсках мела вельмі актыўны характар.

Хаця ўсе кандыдаты выступалі як незалежныя, і толькі адзін падкрэсліваў сваю партыйную прыналежнасць (Пятро Багроўскі з БДА), вядома было паўсюдна, што ствараюцца два нефармальныя блокі з двума лідэрамі: Сяргеем Нічыпаруком з Грабаўца і Юрым Несцеруком з Дубіч. Абодва яны ішлі калісьці рука ў руку, змагаліся за перамены ў гміне, але цяпер іх шляхі разышліся. Выбарчае змаганне прадаўжалася і пасля выбараў, цяпер ужо за галасы нававыбраных радных, да апошняга вечара перад першым пасяджэннем Рады. Астаткі выбарчай кампаніі разыграліся на вачах радных падчас пасяджэння. Дзве асобы з публікі, якія былі контркандыдатамі Ю. Несцерука ў выбарах на раднага, выступілі з нейкімі дакорамі ў яго адрас. На мой погляд, радныя не павінны былі дапусціць да таго, каб на пасяджэнні зводзіліся асабістыя разлікі.

Падчас стаўлення кандыдатаў на пост старшыні Рады, нефармальная Кааліцыя за ратаванне і развіццё гміны, якая быццам бы падтрымоўвала Ю. Несцерука, трэснула ў вачах. Усплыла яшчэ адна кандыдатура, Мікалая Лаўрыновіча са Старога Корніна. Такім чынам выбары выйграў С. Нічыпарук, якому дзеля гэтага хапіла сямі галасоў з пятнаццаці.

С. Нічыпарук, вядомы грамадскі дзеяч (у свой час звязаны з сялянскай „Салідарнасцю") цяпер з'яўляецца прадпрымальнікам. Паспяхова развівае прадукцыю дамоў канадскага тыпу і займаецца турыстыкай. Якраз свой асабісты прадпрымальніцкі поспех ставіў у сваім праграмным выступленні як прыклад магчымасцяў выратавання гміны. Перад раднымі развёў ён прывабны вобраз развіцця прадуктовай экалагічнай вытворчасці і развіцця супрацоўніцтва з беларускімі прадпрыемствамі, для якіх гміна магла б стаць базай да супрацоўніцтва з Польшчай і заходнімі краінамі. Кінуў таксама думку аб стварэнні ў Дубіцкай гміне цэнтра інтэграцыі беларускай дыяспары.

Гмінная рада ў Дубічах-Царкоўных прэзентуецца вельмі добра. Уражвае маладосць многіх радных. Ствараецца ўражанне, што жыхары сапраўды выбралі гэтую Раду ў нейкім рэфлексе самавыратавання. Тым не менш гмінная палітыка кіруецца сваімі законамі, а ў гміне Дубічы-Царкоўныя яны вельмі суровыя. Спрадвеку жыхары гэтай падпушчанскай аколіцы славяцца сваёй нецярпімасцю. Помніцца хаця б вэрхал, які падняўся на ўсю Беласточчыну ў сувязі з узнікненнем у Дубічах „Салідарнасці" ды сведчаць фундаменты спаленага дома колішняга гміннага начальніка і абгарэлыя сцены дома Ю. Несцерука.

Цяпер страсці быццам аціхлі, але шлях да выратавання гміны так ці інакш доўгі і цярністы.

АЛЕГ ЛАТЫШОНАК

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕРАМОГА

Так больш-менш лакальныя каментатары акрэслілі вынікі выбараў у самаўрады гарадоў Гайнаўка і Бельск-Падляшскі. 30 чэрвеня на першым пасяджэнні новай Гарадской рады ў Гайнаўцы бурмістрам была выбрана Ядвіга Рудзіньска-Патэюк з СЛД. Да 1990 г. была яна войтам Гайнаўскай гміны. Беларускія радцы згодна вырашылі, што беларускія інтарэсы ў гэтым горадзе найлепш прэзентаваць будзе прадстаўнік польскай партыі. Даказалі такім чынам, што традыцыя ў нашым сялянскім народзе не загінула. Спадзяюся, што Пані Ядвіга будзе добрай мамай для сваіх беларускіх дзетак.

ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ

# FUEV — што гэта такое?

13—15 мая 1994 года ў Гданьску адбываўся XX Кангрэс Федэрацыйнай уніі еўрапейскіх этнічных груп (FUEV). Гаспадаром кангрэсу было Кашубска-паморскае згуртаванне (Zrzeszenie Kaszubsko-Pomorskie). Нам, таксама як і ўкраінцам, пра кангрэс прыйшлося даведацца толькі з мясцовай прэсы, якая зрэшты памылкова назвала чарговы кангрэс гэтай міжнароднай арганізацыі трыццаць пятым, а не, як у сапраўднасці, дваццатым. Што ж гэта за арганізацыя? Можа і нам, беларусам, пражываючым у Польшчы, варта з ёю пазнаёміцца. Хаця на штодзень нашыя кантакты з гданьскімі ўладамі даволі багатыя, то на гэты раз імпрэзу, у якой прынялі ўдзел і ваяводскія ўлады, ад нас і ўкраінцаў аддзяляла сцяна маўчання. З гданьскіх меншасцей прысутнічалі толькі немцы. Так прынамсі паведамлялі мясцовыя газеты.

Арганізацыя FUEV створана ў Версалі ў 1949 годзе. На першым кангрэсе FUEV была прынята рэзалюцыя, у якой гаварылася: „Нацыянальна-культурная свабода з'яўляецца такой самай духоўнай каштоўнасцю, як і рэлігійная свабода. Гэты прынцып павінен быць этычнай нормай у адносінах між нацыямі, а таксама павінен праяўляцца ў юрыдычных нормах і распараджэннях. Кожная дзяржава, у межах якой жывуць іншыя нацыянальныя групы, павінна запэўніць ім як супольнасцям свабоднае культурнае і эканамічнае развіццё, а іх членам — свабоднае, бязмежнае карыстанне ўсімі грамадзянскімі правамі. Прызнанне гэтых нормаў і практычнае іх выкананне спрые паразуменню між нацыямі, а гэтым самым і захаванню міру ў Еўропе".

FUEV лічыць сябе спадкаемцам Нацыянальнай уніі 1912—1918 гадоў і Нацыянальных кангрэсаў міжваеннага перыяду. У 1925—1938 гадах адбылося 14 кангрэсаў. Справаздачы з іх змяшчалі „Sprawy Narodowościowe" і „Natio". Прысутнічалі ў іх таксама беларусы, між іншым, Адольф Клімовіч.

Чарговы 15 кангрэс адбыўся толькі ў 1985 годзе ў Жэневе. На кангрэсе ў Хацебужы ў 1992 годзе быў прыняты праект Еўрапейскай канвенцыі аб правах этнічных груп як дадатковы пратакол да Еўрапейскай канвенцыі правоў чалавека і асноўных свабод.

З 1989 года FUEV мае статус дарадчай арганізацыі ў Радзе Еўропы і гуртуе 75 членаў з 24 еўрапейскіх дзяржаў. Сядзіба FUEV знаходзіцца ў Фленсбургу. Члены падзяляюцца на звычайных, згуртаваных (stowarzyszonych) і карэспандэнтаў. Каб стаць членам FUEV трэба споўніць наступныя крытэрыі:

1. дэмакратычна выбраць членаў праўлення,
2. мець грамадзянства краіны месца пражывання,
3. мець юрыдычна прызнаны статут,
4. атрымаць статус зарэгістраванага саюза,
5. прадстаўляць адпаведную частку меншасці ці этнічнай групы,
6. адмовіцца ад прымянення сілы і ад сепаратысцкай палітыкі.

Паводле FUEV меншасцю ці нацыянальнай або этнічнай групай лічыцца супольнасць, якой характэрны наступныя прызнакі: уласная мова, уласная гісторыя і традыцыя, адсутнасць уласнай дзяржавы на сваёй бацькаўшчыне або знаходжанне па-за нацыянальнай дзяржавай.

FUEV выдае бюлетэнь „FUEV-Aktuell". Рабочымі мовамі кангрэсаў з'яўляюцца французская, англійская, нямецкая і руская. На кангрэсе ў Гданьску новым прэзідэнтам выбраны Хрыстоф Пан з паўднёвага Ціролю. Да ўдзельнікаў прыслаў ліст прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса, у якім напісаў: „We współczesnej Europie jednym z wyznaczników demokratyczności systemu politycznego jest poszanowanie praw mniejszości narodowych i grup etnicznych, uznanie i podtrzymanie ich tożsamości oraz zagwarantowanie równych szans autentycznego rozwoju". Другі ліст — ад арцыбіскупа Тадэўша Гацлоўскага — сцвярджаў: „Kościół Katolicki zawsze z dużym szacunkiem odnosił się do bogactwa reprezentowanego przez grupy etniczne i ich bogactwo włączał do swego religijnego skarbca".

Прафесар Феліks Эрмакор з Венскага універсітэта сказаў: „Асіміляцыя меншасці — гэта не найлепшы спосаб на будаванне будучыні нашага кантынента. (...) Дзяржавы не з'яўляюцца адпаведнымі гарантамі этнічных правоў".

Кашубска-паморскае згуртаванне з нагоды кангрэсу выпусціла адмысловы нумар свайго часопіса „Pomerania", прысвечаны поўнасцю этнічным меншасцям. З беларускіх акцэнтаў знаходзяцца ў ім апавяданні Сакрата Яновіча і рэцэнзія на яго кнігу „Terra incognita: Białoruś" ды малюнак Міколы Давідзюка. На вокладцы — здымкі гданьскіх храмаў розных канфесій.

Выглядае на тое, што можна напісаць ці сказаць прыгожыя словы пра мнагакультурнасць Гданьска і Памор'я. Сумна толькі, што рэчаіснасць далёка не супадае з гэтымі словамі. Недзе тры гады таму назад гданьскі віцэ-ваявода, тадышні старшыня Кашубска-паморскага згуртавання Юзаф Бажышкоўскі сказаў: „Спярша збудуем дом для кашубаў, а потым для беларусаў, украінцаў". Як гэта выглядае сёння? Кашубы маюць свой дом, свой часопіс і нават членства ў FUEV, а мы так і засталіся з думкамі пра свой куток на Гданьскай зямлі і, відаць, не заслужылі ў гаспадароў, каб у якасці гасцей трапіць на кангрэс.

ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ




БАРЫС РУСКО

**У сабе**

З празрыстай вышыні птушынага палёту
ў золаце жыта бачу васількову сінь,
гаючыя фантаны сумлення
ў шчылінах сарамлівых учынкаў,
папару дзірван — рулон згорнутай цішы.
Нураю ў крыніцу страсці.
Аж да шэпту свята
плавіцца краявід болю.
Сюрпрызаў оргія ўзятая за гарызонт
уяўлення!
Лодкай шчасця плыву
ў нявыказную ласкавасць.

**Смерць сабакі**

Пад коламі смерць круглая,
як сабака згорнуты ў клубок.
На дрэўку павісла кропля крыві,
асфальт шчаціціцца поўсцю,
гатовы скочыць да горла.
У пятлі круглагубцаў брычкастых
шпарчэйшыя долі секунды.
Які ж сэнс явы жыцця
ў зубчастых сківіцах машыны.

* * *

Устаньце Цені, каб жыць.
Жывыя, зірніце дням у вочы.
Голыя целы і
чарапы пустыя без твараў.
Бязглуздасць абчэсвалі,
дык ціха іх пахавайце
пад валуном дарожным,
каб сонца не грэла шкілеты.
І вяртайцеся да сябе шчаслівымі,
што здзейснілі пачын векапомны.

# КАІН ЗАБІВАЕ АВЕЛЯ

*І калі яны былі ў полі, паўстаў Каін на Авеля, брата свайго, і забіў яго.*
*(Быццё, 4:8)*

Каін рабіў зямлю, Авель пасвіў скаціну, а вучоныя прысвечаную ім біблейскую прытчу разглядаюць як выраз непрымірымасці паміж народамі земляробаў і жывёлаводаў, якая на працягу тысячагоддзяў неаднойчы кончылася кровапраліццем. Нешта падобнае адбываецца цяпер у Руандзе, дзе змагаюцца земляробы гуту з жывёлаводамі тутсі.

Гэтае змаганне мае этнічны характар, хаця марксісты па ўсім свеце намагаюцца паказаць яго сацыяльны змест. Паводле іх *тутсі* значыць *багаты*, а *гуту* — *бедны*, і ўся справа зводзіцца да таго, у каго больш кароў.

Калі б гэта было так, дык мелі б мы дачыненне да прыроднага феномену, калі розніца ў сацыяльным статусе выклікае розніцу генетычную: сярэдні тутсі мае 185 см росту і на галаву перавышае сярэдняга гуту, які мае метр шэсцьдзесят з лішнім. А ў Руандзе жывуць яшчэ пігмеі *тва*, але яны, дзякуй Богу, так малыя, што ніхто імі не пераймаецца, а што за гэтым ідзе, і не забівае.

Такім чынам застаецца гістарычнае, а не сацыяльнае тлумачэнне варажнечы: некалькі сот гадоў таму тутсі заваявалі гуту, стварыўшы два каралеўствы — Руанду і Бурундзі. З гэтай пары яны страцілі сваю мову (праўдападобна нілоцкую) і прынялі мову большасці — банту. Моцна яны таксама перамяшаліся са сваімі падданымі. Сярэдні рост тутсі трэба разумець так, што сярод іх вельмі многа двухметровых, але трапляюцца і нізкаватыя, таксама як бываюць высокія гуту.

Тутсі гэта народ прадпрымальны і вынаходлівы. Вельмі любяць сваіх кароў, якіх колькасць і пародзістасць з'яўляецца паказчыкам багацця. У сувязі з тым тутсі выгадавалі быдла з самымі доўгімі на свеце рагамі. Паколькі мы тут даволі зняважліва ставімся да дасягненняў нейкіх там неграў, хачу запытацца: а што такое мы, беларусы, стварылі, што лічымся самым *най-* у свеце? Палякі дык прынамсі самую высокую ў свеце мачту ўзвялі, дый тая паржавела і рынула.

Тутсі панавалі ў сваіх каралеўствах Руанда і Бурундзі, пакуль не прыйшлі бельгійцы. Каланізатары, усё-такі, надалей пакінулі тутсі пры ўладзе, пакуль не прыйшоў для Афрыкі час незалежнасці. Пакідаючы Руанду, бельгійцы правялі выбары, у якіх перамаглі гуту, якіх у дзесяць разоў болей за тутсі.

Гэта выклікала першую разню ў 1959—61 гадах пад лозунгам „антыфеадальнай рэвалюцыі". Загінула тады каля 100 тысяч тутсі. Разні паўтараліся яшчэ ў 1964 і 1973 гадах.

Тутсі ўтрымаліся пры ўладзе толькі ў суседнім Бурундзі.

Частка руандыйскіх тутсі, якая схавалася ва Угандзе, у 1990 г. пачала наступленне супраць руандыйскага рэжыму. Падтрымала іх частка гуту, якія згодныя былі падзяліцца ўладай з тутсі, каб толькі пазбыцца сваіх крывавых аднаплямённых уладароў (дарэчы, гуту падзяляюцца паміж сабой на паўднёвых і паўночных).

Усё-такі, апошняе слова было за тымі, хто выступаў за вайну ажно да пераможнага канца. Канец гэты разумеецца ў катэгорыях чыста еўрапейскіх як *Endlosung* — канчатковае вынішчэнне тутсі. *Endlosung* пачаўся з забойства прэзідэнтаў Руанды і Бурундзі, якія абодва былі гуту, схільнымі да перамоваў з тутсі. Пасля таго пачалася разня.

Разня 1994 г. адрозніваецца ад папярэдніх тым, што калі раней забівалі толькі дарослых мужчын, цяпер гуту забіваюць усіх тутсі: мужчын, жанчын і дзяцей, не забываючы таго, што тутсі, якія тры гады таму ўварваліся з Уганды, гэта якраз тыя дзеці, якім раней даравана было жыццё.

Спосабам забівання тутсі, які дае гуту найбольш асалоды, з'яўляецца абрэзванне ног у каленях, каб гэтым самым тутсі не быў ужо такі выносливы. Паколькі рост можа служыць толькі статыстычным паказчыкам розніцы паміж гуту і тутсі, уведзены былі пашпарты, у якіх чорна па белым пішацца, хто гуту, а хто — тутсі. Усё-такі тыя гуту, якія на сваё няшчасце выраслі вышэй за сваіх братоў, уцякаюць у свет вочы разам з тутсі. Вядома, п'яныя рэзуны хутчэй забіваюць, чымсьці пытаюць.

За некалькі дзён загінула каля паўмільёна людзей: 60% усіх тутсі і 90% інтэлігенцыі гуту, якая была палічаная „гнілой" з-за сваёй схільнасці да кампрамісу.

Усё-такі, лягчэй змагацца з безабароннымі, чымсьці з жаўнерамі. Армія Фронту вызвалення Уганды, якую ў большасці складаюць тутсі, атрымала перамогу і ўзяла сталіцу краіны — Кігалі.

Ваенны поспех тутсі з'яўляецца сапраўднай піравай перамогай. Пераможная армія страціла амаль увесь народ, ад імя якога пайшла ў бой. Цяжка здагадацца, на што разлічваў правадыр тутсі, палкоўнік Кагамэ, пачынаючы тры гады таму вайну. Відаць, небарака спадзяваўся, што вайна будзе весціся традыцыйным спосабам — значыцца, забіваць будуць толькі мужчын. Пралічыўся страшэнна...

Адной з прычын самагубства народу тутсі стала, здаецца мне, іхняе зазнайства. Яны ўважаюць, што павінны прынамсі на роўні з гуту валодаць Руандай і Бурундзі, хаця іх у дзесяць разоў менш. І жывуць яны раскінуты аднастайна па ўсёй тэрыторыі абедзвюх краін, у сувязі з чым так лёгка было іх забіваць, як тую шляхту ў час мужыцкіх бунтаў у нашым кутку свету. Калі б тутсі сваю звышлюдскую энергію накіравалі на адваяванне нейкай тэрыторыі, на якой стварылі б сваю этнічную дзяржаву, пэўна ж выжылі б.

А так, нават іхняя ваенная перамога прападае на вачах. Францыя, якая па бліжэй невядомых „стратэгічных" прычынах падтрымоўвае крывавы рэжым у Руандзе, вырашыла правесці „гуманітарную" інтэрвенцыю. Гэта значыць, што пасля таго, як руандыйская міліцыя выразала безабаронных тутсі, французскія дэсантнікі выб'юць апошніх тутсі — гэтых са зброяй у руках.

АЛЕГ ЛАТЫШОНАК

# Зорка
## старонка для дзяцей

## Вершы Віктара Шведа

### ПЫТАННІ

Запытаў аднойчы Ўлодак:
— Хто гэта, матуля — продак?
— Твае продкі, мілы Ўладзя,
Гэта бацька, дзед і прадзед.

Трэба нам, сынок, вучыцца
Шанаваць і ганарыцца.
— А чаму ж, скажы, мамуся,
Ганарыцца імі мусім?..

### КІМ ХОЧАШ БЫЦЬ?

— Кім хочаш быць, скажы, Мікола,
Калі закончыш усе школы?
— Дык лекарам — як хоча татка,
Потым — юрыстам (воля маткі).

А ўрэшце тым, як я сам мару:
Вядома, хачу быць камінарам!
Дык і сабе тут, не дарэмна,
Зрабіць мне хочацца прыемнасць.

### АБРАЖАНЫ

— Ты не смяешся, мне дзівота,
З вясёлых Жэні анекдотаў?
Расказвае так добра, многа,
Што ўсе смяюцца да знямогі...

— Я не смяюся, на Яўгена
Даўно абражаны страшэнна!
Як толькі я дамоў вярнуся,
Тады ўдосталь насмяюся.



*Музыкі з Сямяціч.* Фота М. Ваўранюка

### ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Толік, куды ты гэтую лодку цягнеш?! У ёй жа столькі дзірак!
— Нічога, у вадзе не будзе відаць ні адной!

* * *

— Да каго падыходзіць пагаворка „Круці не круці, а трэба памерці?" — пытае настаўнік Юрку.
— Хіба да шафёра!

* * *

Міколка да сябра:
— Мой брат на школьных спаборніцтвах прабег два кіламетры ў дзве мінуты!
— Ну, не выдумляй! Гэта ж ніжэй сусветнага рэкорду!
— Але ён ведае самую кароткую дарогу!

* * *

Маленькі Вінцук хадзіў з мамай у звярынец. Калі вярнуліся дамоў, запытаў яго бацька:
— Ну, што там табе, сынок, найбольш запамяталася?
— Той п'яны дзядзька, што малпам язык паказваў!

Прыслаў
ЯСЬ ПАДАРОЖНІК

## КАЛІ ЯКІЯ ЗБІРАЦЬ ГРЫБЫ?

Зразумела, парадак з'яўлення грыбоў паказаны толькі прыблізна, і ў залежнасці ад мясцовых умоў ён часта парушаецца. Але магчыма ўсё ж вызначыць, што на падыходзе. Падкажа сама прырода, сам лес. Трэба ведаць толькі народныя прыкметы і ўзгадняць з імі паходы ў лес. Вось некаторыя з гэтых прыкмет.

Распусцілі вольха і бяроза каташкі — час смаржкоў.
Выгнала дрэва поўны ліст — смаржкі знікаюць да наступнай вясны.
Пасля смаржкоў праз тры тыдні чакай падбярозавікаў, першыя з іх — у час квітнення чаромхі.
Расцвіў бэз — час шампіньёнаў (пячурыц).
Паляцеў пух з асіны (злятае спелае насенне) — вылезлі падасінавікі.
Зацвіла сасна — з'явіўся зярністы масляк.
Закаласавала жыта — час збіраць белыя баравікі-каласавікі.
Ёсць у лесе ваўнянкі — на падыходзе грузды.
Жнуць жыта — пачатак другога ўраджаю падбярозавікаў.
З'явіліся мухаморы — рыхтуйся зноў за баравікамі.
Паспяваюць у лесе маліны, чарніцы — час другога заходу баравікоў, а праз два тыдні чакай рыжыкі.
Цвіце верас — шукай рыжыкі.
Трапляюцца рыжыкі — хутка з'явяцца асеннія апенькі.
Авёс набраў васкавую спеласць, на бярозах зажаўцелі першыя лісцікі — час збіраць асеннія апенькі.

Час апошняга збору грыбоў — пачатак лістапада.

## 6

## БЯЗБОЯЗНЫ АЛІК

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

Каля нас па суседству жыў Лявон, пяцікласнік. Высакаваты пяцёрачнік у акулярах, апрануты ў чырвонае, заакіянскага паходжання пальцечка з амерыканскага барахла, як тады казалі. Ён упадабаў імя Дзік і выказаў пры гэтым не пазбаўлены арыгінальнасці погляд. Выпадак дапамог яму пацвердзіць яго думку.

Лявон прыйшоў да нас па абедзе з малодшым братам Алікам, вельмі ўцешным і пацешным малым. Ён быў гатовы дняваць і начаваць у нас, так цяжка было разлучацца з катком і сабачкам, каля якіх зняходзілася мноства магчымасцей пазабаўляцца.

Кот Хама скончыў полудзень, вымыў мызачку і без асаблівай цікавасці, адчэпнага, чапляў на кіпцюр паперчыну са шпагату, якую Алік вадзіў у яго па самых лапах, — відаць,ката хіліла ў сон. Мала падабалася ляная гульня і хлопцу, ён паглядаў у куханьку, клікаў Дзіка. А той і не думаў варушыцца, вартаваў свае міскі, пакуль астыне поліўка і будзе дадзены дазвол: „Еш!"

Што міска належыць толькі яму, Дзік ведаў добра, — яна заўсёды стаяла на пэўным месцы, каля пліты, і для іншых патрэб не ўжывалася. Сабака падпільноўваў чысціні посуду, сам акуратна вымываў бакі і дно языком. Часамі міску перасоўвалі, адразу ж адшукваў, браў у зубы і стаўляў куды належала, як быццам нагадваючы, што яна не павінна доўга пуставаць.

Калі ж міску налівалі з берагамі і яна смачна паравала, пільнасці ў сабакі намнога прыбывала. У кутку кухні як бы стваралася ахоўная зона, рух спыняўся, нават не патыкайся! Пры кожным кроку, за якім мог хавацца замах на ягонае дабро, Дзікавы лапы сашчэпліваліся вакол міскі і ў вачах з'яўлялася папярэджанне: лепей не чапай!

Выключэнне рабілася для Гаспадара, а больш для Гаспадыні, і не з павагі, а з меркаванняў чыста прыктычных: абое яны маглі падкінуць костачку ці падсмачыць ежу, не ленаваліся і памяшаць, каб хутэй астывала.

Алік ступіў у кухню з бясстрашнасцю пяцігадовага чалавека. У запаветным кутку было ціха, сабака не рабіў ніякіх гукавых папярэджанняў. Аднак усе дарослыя ўстрывожана прыўзняліся з месцаў. А хлапчук нагнуўся, пагладзіў Дзіка па настаўленым хібе, узяў у яго з-пад носа міску і, трымаючы яе перад сабою, рушыў у пакой, дзе мы сядзелі.

Дзік ішоў услед і збянтэжана павільваў хвастом. Пазіраў на нас і нібыта апраўдваўся: „Ну што зробіш, малое — дурное!"

Знацярпліўшы ад чакання, калі будзе канец свавольству, сабака забег наперад і заступіў Аліку дарогу. Морда яго набыла красамоўны выгляд: „Аддай, нарэшце, ты ж гэтага ўсё роўна есці не будзеш!"

Зразумеўшы, што падражнівацца досыць, Алік таксама павольна павярнуўся і занёс міску назад. Дзік па-дружбацку лізнуў яго ў шчаку і лёг чакаць — некалі ж сыдзе гэтая праклятая пара!

Трывожнае ўзрушэнне спала.

— Што ж гэта ты надумаўся, хлопчанька! А каб ён цябе хлямнуў? Што б твая мама сказала, га?

Малы ззяў, як маладое сонейка, умыўшыся ў расе.

І было чаго! Надумаўся і зрабіў. Першы раз перамог страх і, мала таго, падпарадкаваў сваёй волі другую, хай сабе і сабачую. Хлопчык сеў, перанятым ад мамы рухам пагладзіў сам сябе па галаве — гэта азначала: „Маладзец, Алік!"

— А што? Мне хацелася, каб ён сядзеў разам з намі, — у Аліковых вачах бліснуў праменьчык задавальнення: — А як было выклікаць? Але Дзік зразумеў, ён добры хлопец і ніякі не злоснік. Ён зусім не скнара: я мог бы і сербануць ягонага крупніку, каб не гарачы.

Мы дружна зарагаталі з блазнюкоўскага выхвалення: ягоны выхад на самадзейную дрэсіроўку мог скончыцца плачам і слязамі. Аднак значэнне „добры хлопец" мела пад сабою падставы і ўсім спадабалася. Нашыя ўзрадаваныя войканні перапыніў, парушыўшы сваё абвыклае маўчанне, Алікаў апякун, Лявон. Сярод дваровых хлапчукоў ён быў непахісны аўтарытэт: ведаў мноства народных выслоўяў і двойчы прачытаў навылет усяго Вальтэра Скота.

— Нахабства Аліку лёгка абышлося, бо яны з Дзікам зараз у адным узросце. — Лявон крыху падумаў. — Па розуме. Таму і паразумеліся.

Алік, падцісніўшы верхнюю губку, не прапускаў ніводнага братавага слоўца.

— Праўда, — бязлітасна працягваў той, — Алік умее чытаць, чаго, на жаль, не ўдасца асіліць Дзіку. Затое ён больш высакародны: ніколі не дазволіў бы зачапіць Алікаву талерку.

*(працяг у наступным нумары)*

МАКСІМ ЛУЖАНІН

# Басовішча '94



*Мінулагодняе „Басовішча" адкрыў Сакрат Яновіч.*

## Праграма

Сёлета арганізатары V Фестывалю музыкі Маладой Беларусі „Басовішча '94" намерваюцца правесці яго паводле наступнай схемы. Канцэрты маладзёжнай музыкі адбывацца будуць у пятніцу і суботу (15 і 16 ліпеня). **Пачатак канцэртаў а 20.00 гадзіне.** У нядзелю (17 ліпеня) у Барыку адбудзецца, арганізаваны Гарадоцкім асяродкам культуры, народны фэст — з удзелам фальклорных калектываў з Беласточчыны ды калектыву з Бераставіцы.

**У ПЯТНІЦУ** выступяць гурты-ўдзельнікі конкурсу:

— **As** (Беласток),
— **Белы Сон** (Беласток),
— **Szwejo** (Гайнаўка),
— **Awaria** (Гайнаўка),
— яшчэ адзін з Гайнаўкі (назва якога ў момант здавання гэтага матэрыялу ў друк была невядомай),
— **Брага** (Беласток—Бельск),
— **Палац** (Менск).

**У СУБОТУ** выступяць пераможцы конкурсу, а пасля іх — зоркі мінулагодніх „Басовішчаў":

— славутае **Новае Неба,**
— англафікаваная **Крама,**
— ды найлепшы на гэтым паўшар'і гард-рок-гурт **Мроя.**

Гасцінна выступіць польскі гурт **Kasa Chorych** з Беластока.

Таксама ў суботу, але ўдзень, яшчэ да канцэртаў, у Барыку выступіць тэатр Менскага універсітэта культуры **Каладзей.**

На сёлетнім „Басовішчы" мае з'явіцца **спеўнік з тэкстамі кампазіцый Мроі, Новага Неба, Уліса, Крамы, Бонды.** Гурты маюць таксама прывезці з сабою касеты з запісамі сваёй музыкі. Пажадана, у сувязі з гэтым, узяць на „Басовішча" крыху граша. Традыцыйныя на „Басовішча" аплаты сёлета выглядаюць наступным чынам:

**за палатку** (любой велічыні) — 10 тысяч зл.

**за ўдзельніцтва ў „Басовішчы"** (усе канцэрты, аказіяльны значок Фестывалю) — 50 тысяч зл.

## Народны фэст

У нядзелю 17 ліпеня адбудзецца ў Барыку народны фэст, арганізаваны Гарадоцкім асяродкам культуры і гмінай Гарадок. **Канцэрты пачнуцца а 14.00 гадзіне.** Выступяць, між іншым, калектыў **„Цаглінкі"** з Ляўкова, **Рэгіянальны калектыў беларускай народнай песні з Гарадка, калектыў з Бераставіцы** ды мабыць і **Хор Гарадскога аддзела БГКТ** з Беластока, — сказала арганізатарка фэсту Тамара Бурачэўская. Калектывы, мяркуе пані Тамара, будуць выступаць гадзіны тры. Пазней пачнуцца народныя танцы.

З нагоды юбілейчыку „Басовішча" Тамара Бурачэўская выказала надзею, што імпрэза будзе развівацца і надалей, бо Гарадок у ліпені без „Басовішча" ўявіць ужо немагчыма.

**(рк)**

*MROJA*

### Ja — rok-muzykant

Ja nie lublu szykoŭnych balaŭ,
Ja nie prychilnik estectva.
Mnie niedaspadoby duchoŭny handal
I talent, jaki pradajecca.

Ja nie lublu sałodkich śpievaŭ
I piesień restarannych varyjant.
Ja — z tych, chto nie szkaduje svaje nervy,
Ja — rok-muzykant.

Ja rok-muzykant starych tradycyj.
Heta nie pryzvańnie, heta pazycyja.

Ja suprać błakitnych i załatych,
Ja nie vynoszu pustyja voczy.
Viedajcie, ja nia z tych,
Chto żyvie pa zakonach noczy.

Chaj praŭda zamienić pavietra,
Hitara skryhocza jak tank.
Ja sabie zastanusia viemy,
Ja — rok-muzykant.

Ja rok-muzykant starych tradycyj...

Ja nie szukaju sławy tannaj,
Ja piaju nie dla hroszaj.
Ja chaczu zastacca sałdatam,
Sałdatam ciażkaha roku.

I niszto užo mianie nia źmienić,
Dumać i hrać budu tolki tak!
Ja chaczu pamierci na scenie.
Ja — rok-muzykant.




*У свабодны ад канцэртаў час.*

 

# „Басовішча" ў тваім жыцці...

*— У гэтым годзе ў падгарадоцкім лесе Барык адбудзецца пяты ўжо выпуск Фестывалю музыкі Маладой Беларусі. Юбілей гэта, праўду кажучы, невялікі — такі сабе юбілейчык...*

**Юры Сульжык** (старшыня Беларускага аб'яднання студэнтаў, жалезны містэр „Басовішча '94") — „Басовішча" гэта найперш дасканалая нагода для гульні, для ўсіх, з беларускай музыкай. Гэта асноўная справа. З гэтага вынікае ўсё іншае. Узнікаюць, напрыклад, новыя песні, але не толькі гэта...

*— У гэтым годзе пераважаць гурты ад нас, з Беласточчыны...*

**Ю. Сульжык** — У конкурсе выступіць толькі адзін гурт з Беларусі, „Палац". Гурт гэты, праўда, больш прафесійны, але такіх зусім маладых груп там мы не знайшлі. Рэшта конкурсных гуртоў ад нас, з Беласточчыны. Ідэя „Басовішча" ў гэтым годзе такая, што ў пятніцу выступяць усе конкурсныя гурты, пасля іх польскі гурт „Kasa Chorych" ды мабыць яшчэ ў пятніцу з кароткімі ўступамі выступяць нашы зоркі. Хаця асноўныя канцэрты лаўрэатаў мінулагодніх „Басовішчаў" адбудуцца ў суботу, звыш гадзіны музыкі кожны — каб ніхто пазней не сказаў, што яму было мала, напрыклад, „Мроі".

*— А хто ў гэтым годзе з'явіцца абсалютнай зоркай Фестывалю?*

**Ю. Сульжык** — Калі ідзе пра гук самога гэтага слова — зорка-зорка-зорка — і людзі ўжо ведаюць, што ад музыкі такога гурту будзе „суперова", то цяжка так адназначна вызначыць. Са свайго досведу аднак ды з таго, як людзі гулялі ў мінулых гадах, а таксама мяркуючы паводле музыкі, якая лілася са сцэны, здаецца мне, што гуртом такім з'явіцца „Крама".

*— А „Мроя", яна добрая на ўсё?..*

**Дарота Сульжык** (жонка старшыні) — „Мроя" ўмее ўзбудзіць публіку, выклікаць у яе дзікую пажадлівасць...

*— Дарота, скажы, ці добра сталася, што на свой юбілейчык „Басовішча" прадстаўляе нашу музыку, можа не найвышэйшага палёту, але затое больш да людзей?*

**Д. Сульжык** — Напэўна гэта добра. Яшчэ ў мінулым годзе войт прапанаваў, каб увайсці ў лучнасць з іншымі асяродкамі ды прыцягнуць да Фестывалю больш выканаўцаў з Беласточчыны. Музыка гэтая, фактычна, можа і не будзе такога лёту, як у выпадку прафесійных груп з Беларусі, але, думаю, што гэта добра. Найлепшым доказам гэтага той імпульс, які выклікала прыцягненне да Фестывалю нашых гуртоў. Прыслаў нам запісы сваёй музыкі адзін гурт з Гайнаўкі, які выконвае польскую музыку. Яны напісалі — калі будзе нам дазволена выступіць на „Басовішчы", мы ахвотна папрацуем і над беларускім матэрыялам.

**Ю. Сульжык** — Справа таксама яшчэ і ў тым, каб не рабіць з „Басовішча" закрытай імпрэзы. У мінулым годзе падумалі прыблізна так — лепей хай прыедзе некалькі добрых гуртоў і людзі пагуляюць пры іх. І фактычна, пры добрай музыцы добрая гульня. Аднак гурты ўзнікаюць і патрабуюць развіцця. Браць толькі найлепшыя гурты ды не даваць шанцу выступіць гэтым маладым і слабейшым — бессэнсоўная справа. Аднаго разу яны выступяць слабавата, але трэба мець надзею, што праз год будзе лепей. Аднаго года на „Басовішчы" выступіў гурт *Бусла* — як выступіў, так выступіў. Пабачым, што будзе ў гэтым годзе. А ў гэтым годзе, апрача рока, будзем мець нагоду пачуць і іншую музыку...

*— Death-chodnik..?*

**Ю. Сульжык** — Таксама і death-chodnik, камп'ютэрную, trash. Пабачым як гэта будзе выглядаць. Будзе гэта цікавае параўнанне — думаю, што пабачым не толькі тое, як выходзіць хтосьці з гітарай, натужваецца, выкручваецца, быццам ад непераноснага болю і рэжа металам па вушах... Можа тут быць нейкая адмена.

*— Ці добры гэта спосаб адзначэння юбілею?*

**Ю. Сульжык** — Я б так не перацэньваў гэты юбілей. У гэтым годзе, папросту, пяты Фестываль. Дасюль адбыліся чатыры, а цяпер маем пяты. І добра, што яго маем. Па-мойму, не трэба аж так абавязкова сабе накідаць, што з нагоды юбілейчыку павінен прыехаць міністр, выступіць і гэтак далей... Калі нейкі гурт заяўляе ахвоту выступіць на „Басовішчы", калі ласка. Гэта ўсё мае быць нармальным.

*— Які ўплыў мае „Басовішча" на жыццё ў Гарадку?*

**Ю. Сульжык** — Для маладых у Гарадку Фестываль мае капітальнае значэнне. Ёсць тут клуб і дыскатэкі ў ім, ёсць таксама і вогнішчы, але, калі надыходзіць „Басовішча" — прыязджае сюды столькі людзей, колькі ў самім Гарадку жыве. Да таго маладых...

*— Добра, а якое значэнне мае „Басовішча" ў тваім жыцці?*

**Ю. Сульжык** — Як то, якое значэнне? З аднаго боку я сам з'яўляюся маладым чалавекам, а значыць „Басовішча" мае для мяне такую ж каштоўнасць, як і для маіх аднагодкаў. Другая справа, што „Басовішча" з'яўляецца маім непасрэдным удзелам. Яго кшталт узнікае часткова пад уплывам і маёй думкі. Гэта таксама вялікае значэнне, нагода праверыць самога сябе ў такой каласальнай імпрэзе. Ёсць тут адказнасць, але і вялікае задавальненне, калі нешта атрымліваецца так, як гэта раней задумалася.

*— Дарота, а ў тваім жыцці, пастаяннай жыхаркі Гарадка?..*

**Д. Сульжык** — Пачынаючы з першага „Басовішча", я на ім штогод. Асабліва памятаецца мне першая імпрэза. Калі іграла „Грамада", людзі ўзяліся за рукі ды зрабілі вялікае кола. Тады я нешта адчула ўнутры, гонар за тое, што ўсё гэта адбываецца тут, у Гарадку. Я таксама была з імі, усё было такое, што аж ох!..

Гутарыў і запісаў
**АЛІК МАКСІМЮК**
фота Петруся Астасевіча


*„Мроя" ўмее ўзбудзіць у публіцы дзікую пажадлівасць.*


*Прэзерватываў і „Басовішча"!*


*„Я хворы на рок-н-рол..." — спявае Ігар Варашкевіч („Крама").*

# У Барык, на „Басовішча"

„Басовішча" — гэта Фестываль музыкі Маладой Беларусі, арганізаваны Беларускім аб'яднаннем студэнтаў у Польшчы. Праводзіцца ён з 1990 года. Традыцыйным месцам Фестывалю з'яўляецца ўрочышча Барык у падгарадоцкім лесе, а тэрмінам — палова ліпеня. На „Басовішчы" сустракаюцца маладзёжныя музычныя гурты з Беласточчыны і Беларусі. Ідэя Фестывалю — гэта менавіта музычная сустрэча моладзі *адсюль* і *адтуль*. Сустрэча маладых беларусаў па-над дзяржаўнаю мяжой, па-над існуючымі тут і там *культ-установамі*.

*Мы* і *яны* — жывем у адрозных умовах. Таму, як паказвае практыка чатырох Фестываляў, спадзяванні ад гэтай сустрэчы часамі разыходзяцца. У Беларусі ідзе вострая барацьба за „быць альбо не быць" нацыянальнай дзяржаве, таму і такая, здавалася б, малаістотная справа, як рок-музыка, набывае там нацыянальна-адраджэнскі характар. Калі ідзе пра наша адраджэнне тут, то наўрад ці нешта апрача рашучай дзяржаўнай палітыкі зможа нас адрадзіць у той ступені, у якой хацелі б мы самі быць народам. Палітыкі такой, аб чым пераконвае штодзённае жыццё, спадзявацца дарма. Таму і не ўскладваем на „Басовішча" такіх катэгарычных надзеяў. Фестываль гэты мае для нас перад усім сяброўскі, а не змагарска-палітычны сэнс. Калі ўжо на „Басовішчы" праводзіцца за нешта змаганне, дык хутчэй за ўсё за тое, каб утрымаць сярод маладога пакалення польскамоўных беларусаў тут пачуццё культурнай адметнасці. Пачуццё, што і беларуская культура мае сваю сучасную, а не толькі фальклорную якасць.

Нягледзячы на гэтае разыходжанне, „Басовішча" набыло сабе папулярнасць і вядомасць тут і там. Як ніякая іншая імпрэза, „Басовішча" выклікае прагу быць на ёй. Амаль усе пра Фестываль гэты чулі. Калі надыходзіць палова ліпеня, праз мяжу рухаецца натоўп. Бывалі выпадкі, што з Беларусі ўдавалася прабіцца на „Басовішча" не толькі без запрашэння, але і без дакументаў.

Сёлета на „Басовішчы" маем надзею пачуць розную музыку, не толькі рок у выкананні прафесійных гуртоў з Беларусі, але і музыку лягчэйшага характару — нашы гурты. Ані гэта добра, ані кепска — якія мы, такая і наша музыка, нечага тут затойваць. Упершыню на „Басовішчы" суботні дзень будзе адведзены не толькі для музычных канцэртаў — выступіць тэатр Менскага універсітэта культуры. Найважнейшае, аднак, у гэтым усім тое, што пратаптаная ў 1990 годзе студэнтамі сцяжына ў падгарадоцкі лес не зарастае. Надыходзіць „Басовішча" і сцяжынай гэтай накіроўваецца ў Барык старыя і маладыя, цэлыя сем'і і старыя кавалеры, адораныя і глухія...

(ам)



 

# АПОШНІЯ З МАГІКАН

**З СЦЯПАНАМ КОПАМ, ГАЛОЎНЫМ ІНСТРУКТАРАМ МУЗЫКІ Ў ВАЯВОДСКІМ АСЯРОДКУ АНІМАЦЫІ КУЛЬТУРЫ ГУТАРЫЦЬ АДА ЧАЧУГА.**

*— Наколькі нам вядома, Ваша галоўнае заданне — апекавацца беларускімі фальклорнымі калектывамі на Беласточчыне, дапамагаць ім, каардынаваць гэту мастацкую дзейнасць. Амаль няма ў нас нейкага культурнага мерапрыемства, якое абышлося б без Вашага ўдзелу і мерытарычнай дапамогі.*

— Вашыя словы прыгожыя, але на практыцы ўсё выглядае намнога болей празаічна. Вось хаця б справа рэпертуару. Часамі трэба праслухаць 20—30 песень, што спявае калектыў, каб выбраць дзве, якія падыходзілі б да агляду. У песні мае быць жыццё! Трэба таксама паказаць людзям, як увайсці на сцэну, як сысці з яе, як паводзіць сябе ў час выступлення. Такіх спраў ёсць шмат. Дарэчы, калі трэба, я дапамагаю і польскім калектывам.

*— Сузіраючы панараму беларускага мастацкага руху на Беласточчыне, можна сабе ўявіць, колькі давялося напрацавацца Вам толькі ў гэтым годзе!*

— Так, сёлета адбылося ўжо даволі многа мерапрыемстваў.

Перш за ўсё трэба адзначыць агляды калядных калектываў: раённы — у Гайнаўцы, ваяводскі — у Юхноўцы і Чаромсе, а апрача таго, міжваяводскія спатканні ў Бельску, дзе прысутнічалі калектывы з Бела-падляшскага, Сядлецкага, Ломжынскага, Сувальскага і Беластоцкага ваяводстваў. Усе гэтыя мерапрыемствы адбываліся ў студзені.

У лютым праходзілі таксама раённыя агляды беларускай песні (у Сямяцічах, Гайнаўцы, Беластоку і Бельску). Цэнтральны агляд, які ўпершыню назваўся Фестывалем беларускай песні, адбыўся 5—6 сакавіка.

Што датычыць дзяцей, дык 12 мая ў Бельскім доме культуры адбыўся цэнтральны агляд беларускай песні для школьнікаў пачатковых школ, а 3 і 4 чэрвеня нашы дзеці бралі ўдзел у II ваяводскіх прэзентацыях школьных калектываў — вакальных, вакальна-інструментальных і вакальна-танцавальных у Нараўцы.

9 чэрвеня ў Нарве адбыўся першы агляд беларускіх абрадных калектываў. Удзел узялі 4 калектывы („Тыневічанкі" з Тыневіч, „Красуні" з Краснага Сяла, „Цаглінкі" з Ляўкова і „Каліна" з Дашоў).

11 чэрвеня ў Нараўцы праходзіла зональная прэзентацыя самадзейных калектываў пад лозунгам „У пошуках фальклору" — другая частка 23-х Ваяводскіх прэзентацый традыцыйнай і сучаснай народнай творчасці.

25 чэрвеня ў Сямяцічах адбылася трэцяя, заключная частка гэтай імпрэзы, у якой узяло ўдзел каля 40 калектываў з Беласточчыны — польскіх і беларускіх, а таксама калектыў песні і танца з Македоніі, што прыехаў на Беласточчыну ў рамках культурнага супрацоўніцтва з калектывам „Падляшскія кукулкі", якім кіруе Мікола Турковіч. Гэта было першае ў гісторыі такое грандыёзнае спатканне. Сэрца цешылася, калі я бачыў, як польскія калектывы падхоплівалі словы беларускіх спявачак і ўторылі ім, а нашы спявачкі дапамагалі спяваць польскім. А пасля да ночы разам пускалі вянкі на рацэ Буг, святкуючы Святаянскую ноч.

*— Здаецца, раней такія імпрэзы былі наскрозь польскія і толькі з Вашым прыходам у ВААК пачалі на іх запрашаць і беларускія калектывы?*

— Але і то спачатку запрашаліся толькі лепшыя калектывы, якія перамаглі ў конкурсах беларускай песні. Каб супольна спявалі ўсе лепшыя калектывы — такога яшчэ не было.

*— А ў вялікім Свяце беларускай культуры, якое адбылося 26 чэрвеня ў Беластоцкім амфітэатры, Вы былі таксама арганізатарам ці толькі артыстам?*

— Не, я там быў адным з выканаўцаў, выступаў з калектывам з Гарадка.

*— Сёлета многія нашыя калектывы адзначалі свае юбілеі...*

— Сапраўды. 14 студзеня — было 15-годдзе калектыву „Каліна" з Дашоў, 29 студзеня — 20-годдзе „Арэшкаў" з Арэшкава, 12 сакавіка — 15-годдзе „Цаглінак" з Ляўкова, 14 мая — 40-годдзе калектыву з Гарадка, 21 мая — 15-годдзе „Журавінак" з Агароднічкаў. Усе гэтыя святы былі адзначаны надта ўрачыста. А на восень плануецца адзначэнне 30-годдзя калектыву „Васілёчкі" з Бельска ды 20-годдзя калектыву „Вульчанкі" з Вулькі-Тэрахоўскай

*— Але жанчыны з „Вульчанак" непакояцца, што гміна ў Чаромсе ім не прыдзеліць грошай на гэта свята.*

— Не можа быць! Ці ж яны ўжо там найгоршыя?!

*— А што ў бліжэйшы час?*

— Вось 9—10 ліпеня ў Белавежы — святкаванне Купалля, якое штогод арганізуе БГКТ. 15—16 ліпеня ў Гарадку ўжо традыцыйнае „Басовішча", маладзёжная імпрэза беларускай рок-музыкі пасля якой, 17 ліпеня, адбудзецца фэстын, на якім выступіць, магчыма, і калектыў з Бераставіцы, з якім супрацоўнічае гарадоцкі хор.

Апрача таго, да кастрычніка мае адбыцца каля 20 беларускіх фэстынаў, дагэтуль адбыўся толькі ў Свінароях.

*— Нядаўна Вы вярнуліся з паездкі на Беларусь, дзе разам з гарадоцкім калектывам выступілі ў I Міжнародным фестывалі фальклору, што адбываўся ў Пінску. Якія Вашыя ўражанні ад гэтай паездкі?*

— Гэты фестываль адбываўся ў днях 15—19 чэрвеня. З нашых калектываў быў там не толькі калектыў з Гарадка, але таксама „Маланка" з Бельска і „Цаглінкі" з Ляўкова.

Немагчыма апісаць словамі, які высокі мастацкі ўзровень прадстаўлялі выступаючыя калектывы. Кірунак быў на аўтэнтычны фальклор. Як відаць ужо з назвы фестывалю, выступалі ў Пінску не толькі калектывы з Беларусі. Апрача нас і „Люблінятаў" з Любліна былі калектывы з Галандыі („Маркела"), Фінляндыі („Талары" — інструментальная група), з Расіі, Украіны.

19-га чэрвеня ўдзельнікі фестывалю пераязджалі ў Мінск. Шкада, што не давялося і нам там пабываць, але трэба было вяртацца з увагі на выбары, у падрыхтоўку да якіх былі заангажаваны многія з самадзейнікаў.

У Пінску я стараўся быць усюды, дзе было цікава. Але, праўду кажучы, я не мог агарнуць усяго пры такім багацці мастацкіх калектываў. Калі слухаў адных, дык не мог у той час слухаць і глядаць тых, якія выступалі на іншых пляцоўках. І хаця арганізацыйны бок фестывалю пакідаў жадаць лепшага і часамі хадзілі мы самапасам, дык трэба прызнаць, што канцэрты адбываліся вельмі зладжана і на ўзроўні.

*— Ці выступалі вы толькі ў Пінску?*

☞ *Працяг на стар. 10*



*І на сцэне, і ў сялянскім клубе Сцяпан Копа з неадлучным гармонікам.*

## Вяртанне нацыянальных каштоўнасцяў

# ЗАЛАТЫ СКАРБ ТРОІ

*(працяг)*

Увесну 1943 года, калі саюзная авіяцыя планамерна і бязлітасна бамбардавала нямецкія гарады, міністр прапаганды Гебельс загадаў адпаведна забяспечыць экспанаты з нямецкіх музеяў і незлічоныя скарбы, зрабаваныя ў захопленых краінах. Усе яны мелі быць вывезеныя на правінцыю, але скарб з Троі, па невядомых прычынах застаўся ў Берліне — у падземеллі аднаго з будынкаў Заалагічнага парку. 22 красавіка 1945 года, калі савецкая армія ўварвалася ў Берлін, усе будынкі ў гэтым раёне былі разбураны да фундаментаў, але каштоўнасці не засталіся ў вільгаці склепа. Ужо 30 чэрвеня з Берліна вылецеў і прызямліўся ля Масквы транспартны самалёт, на борце якога знаходзіліся палотны славутых еўрапейскіх мастакоў: Эль Грэка, Гоі, Манэ, Дэга, скарбы з Троі, з Эберсвальдэ (VI стагоддзе да нашай эры) і з Гольм (IX стагоддзе д. н. э.). 9 ліпеня ўсё было развезена па расейскіх музеях, а траянская знаходка з берлінскага пылу трапіла ў склеп Музея імя Пушкіна ў Маскве, пазначана як „спецыяльны дэпазіт". На практыцы гэта азначала, што для свету скарб перастаў існаваць.

У 1991 годзе Грыгорый Казлоў выявіў у нью-йоркскім штомесячніку „Art News" дакументы спецыяльнай брыгады Чырвонай Арміі, якой заданнем было вывозіць творы мастацтва з занятага Берліна. І да гэтага не было тайнай, што музейныя тайнікі Масквы, Загорска, Ленінграда ды іншых гарадоў укрываюць незлічоныя каштоўнасці нямецкай культуры побач з тым, што немцы заграбілі ў акупаваных краінах. На пытанне журналістаў, ці траянскі скарб знаходзіцца ў Расеі, тагачасны міністр культуры Мікалай Губенка адказаў: „Не гавару ні так, ні не... Проста не ведаю". У кастрычніку 1991 года ў час наступнай прэс-канферэнцыі нехта нясмела запытаў, ці не выпадала б аддаць немцам зрабаваныя ў іх каштоўнасці і папрасіць прабачэння. На гэта міністр, узняўшы голас, заявіў: „Мой бацька загінуў падчас бамбардавання. Маю матку немцы павесілі пасля здабыцця Адэсы. Ці за гэтае таксама маю прасіць прабачэння?" У зале запанавала цішыня...

Чаго не сказаў раней міністр Губенка, тое на ўвесь свет заявіў Барыс Ельцын. Пасля ягонай афінскай заявы, эмоцыі вакол траянскай знаходкі не сціхаюць. У сувязі з гэтым у Маскву прыбыў нашчадак слаўнага археолага Эрнст Шліман. Пры нагодзе было адзначана, што Генрых Шліман атрымаў у свой час расейскае грамадзянства. Яго патомка сустрэлі ў Маскве надзвычай урачыста і наладзілі адмысловы банкет. „Калі маеце гэты скарб, павінны затрымаць яго ў сябе, перадаць у Эрмітаж. Прусакі не стрымалі дадзенага майму пляменніку абяцання", — заявіў у Маскве Эрнст Шліман. Некалькі дзён пазней ён аднак змяніў погляд і заявіў, што знаходка павінна быць вернута Турцыі. На гэтае запратэставалі: Вернер Кноп з Прускага культурнага фонду і Клаўс Гольдман з Берлінскага музея. Яны прыгадалі неаспрэчны факт, што археолаг выкупіў у Турцыі знойдзены скарб і яна не мае на знаходку ніякіх правоў. Яны запрапанавалі, каб Расея пазычыла скарб дзеля сарганізавання выстаўкі ў Берліне. „Пазычыць? — адрэагаваў віцэ-міністр культуры Міхаіл Свідкоў. — А хто запэўніць, што аддадуць яго назад?".

Траянская знаходка была не адзіная, якая ў гады II сусветнай вайны змяніла ўласніка. У рамках ваенных рэпарацый, побач з усім, што мела нейкую вартасць, Чырвоная Армія, аб чым з'едліва спяваў у сваёй песні Уладзімір Высоцкі, вывезла з Нямеччыны неймаверную колькасць твораў культуры і мастацтва. У 1955 годзе, у жэсце пралетарскай салідарнасці, Савецкі Саюз вярнуў у Дрэздэнскую галерэю 750 карцін, а два гады пазней — далейшыя творы, у тым ліку славуты „Пергамонскі алтар". Затое нічога не атрымала Заходняя Нямеччына. Было б аднак несправядліва вінаваціць у грабяжах толькі савецкую армію. Перш за яе музеі на ўсіх акупаваных тэрыторыях Еўропы дакладна спустошыла нямецкая армія. Ацэньваецца, што вывезла яна з самога Савецкага Саюза 564 723 гісторыка-мастацкія творы, якія ніколі не вярнуліся іх папярэднім уласнікам. Невыключана, што прыклала да гэтага сваю руку і амерыканская армія. У лістападзе 1945 года яна заняла замак Хохштат у Баварыі, які быў вялізным складам зрабаваных на Усходзе скарбаў. Знаходзіліся там 1815 скрыняў, якія амерыканцы вывезлі на 29 грузавіках, па якіх і след загінуў. Да сёння не знойдзена найменшага следу або дакумента, куды яны трапілі і дзе знаходзіцца цяпер.

Грабеж траянскага скарбу — малы эпізод з ліку незлічоных грабяжоў у час II сусветнай вайны, у выніку якой на Усход і на Захад паплылі шырокай хваляй таксама беларускія каштоўнасці. Старажытная знаходка Генрыха Шлімана не мае дачынення ні да Беларусі, ні да Польшчы, але паказвае, як цяжка вырашыць заблытаныя справы вяртання скарбаў культуры законнаму ўласніку, калі ўвогуле ўдасца акрэсліць, каму яны павінны належаць. У дадзеным выпадку на траянскі скарб свае прэтэнзіі заяўляюць: Расея, Нямеччына, Грэцыя і Турцыя. Кожны мае аргументы ў сваю карысць, але хто траянскі скарб атрымае — справа больш складаная.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# VI УСЯЛЕНСКІ САБОР У КАНСТАНЦІНОПАЛІ (680—681 г.)

VI Усяленскі Сабор склікаў імператар Канстанцін IV Паганат (668—685). У 678 годзе выслаў ён да папы Домна (676—678) ліст з просьбай прысляць у Канстанцінопаль „вучоных абдораных паўнамоцтвам” паслоў на перагаворы з візантыйскімі епіскапамі з мэтай закончыць з непаразуменнямі. Імператарскае пісьмо застала на папскім троне Агафона (678—681), які быў больш асцярожны чым Вігілій і Ганорый. Ён склікаў у Рыме ў 680 г. сінод, які ўстанавіў дактрыну аб дзвюх волях у Хрысце і выбраў трох епіскапаў, якія паехалі ў Канстанцінопаль. Дэлегацыя прыехала ў Царград і ўручыла імператару два пісьмы: адно ад папы, а другое ад сінода. Папа Агафон у сваім пісьме хваліў „беспамылковасць” рымскага Касцёла і растлумачыў навуку Максіма Іспаведніка (канстанцінопальскага манаха) і Сафронія (іерусалімскага патрыярха) аб дзвюх волях у Хрысце. Ён асудзіў усіх монафелітаў паіменна, але прапусціў імя папы Ганорыя. Папа цяпер адчуваў сябе больш упэўненым у спрэчцы з імператарам, бо ўжо пры папе Віталію (657—672) лангабарды (заходнегерманскае племя) пакінулі арыянізм і прынялі каталіцызм. Іх армія стала цяпер абараняць рымскага папу ад візантыйскіх войск. Імператар Канстанцін IV пайшоў на ўступкі і зняў патрыярха Фёдара (678—680), які быў монафелітам, а на яго месца назначыў Юрыя (Георгія), якому прысвоіў тытул усяленскага патрыярха і прасіў яго склікаць з'езд дэлегацый з Захаду ў Канстанцінопаль, каб акрэсліць дагмат аб волях і энергіях у Хрысце. Імператар не меў намеру склікаць усяленскі сабор, а меў гэта быць толькі з'езд тэолагаў з Захаду і прадстаўнікоў канстанцінопальскага патрыярхату. Але вестка аб з'ездзе разышлася далей і ў Канстанцінопаль з'ехаліся іншыя дэлегаты Усходняй Царквы — з іерусалімскага і александрыйскага патрыярхатаў. Быў запрошаны таксама патрыярх Антыёхіі Макарый. VI Сабор працаваў ад 7 лістапада 680 г. да 16 верасня 681 г. Было праведзена 18 сесій. На апошняй сесіі ўдзельнічалі 174 „айцы сабора”, бо толькі іх падпісалася пад яго пастановамі. Кіравалі Саборам прадстаўнікі імператара, а часта і сам Канстанцін IV. Была там поўная свабода выказвання сваіх поглядаў. Ніхто не нападаў на нацыскі. На 15 сесіі дапусцілі нават да голасу простага манаха Паліхронія, які хацеў даказаць адну волю ў Хрысце пры дапамозе цуду. Ён монафелітычную дактрыну, спісаную на пергаменце, паклаў на нябожчыку і сказаў, што калі гэтая дактрына праўдзівая, дык мёртвы ўваскрэсне. „Суд божы” не здзейсніўся, мёртвы не падняўся і Паліхроній прызнаў монафелітызм неправдзівай дактрынай. Імператар назваў яго „вялікім дзіцём”. Сабор адкінуў усе аргументы монафелітыста, патрыярха Антыёхіі, Макарыя і назваў яго ерэтыкам. Калі прачыталі лісты папаў Сяргея і Ганорыя, то іх асудзілі разам з усімі жывымі монафелітамі. На 13 сесіі вырашылі: „Разам з імі пастанаўляем выкінуць са Святой Божай Усяленскай Царквы іх і таксама праклясці Ганорыя, які быў папам Старога Рыма”. На апошняй, 18 сесіі, у прысутнасці імператара зноў асудзілі кожнага вядомага монафеліта і рымскага папу Ганорыя і выклялі яго. Папу Агафона назвалі „лекарам сённяшняй хваробы Царквы” і прасілі яго прыняць пастановы Сабора і перадаць іх усяму Заходняму Касцёлу. Яшчэ не выехала лацінская дэлегацыя назад у Рым, калі прыйшла вестка аб смерці папы Агафона (10 студзеня 682 г.). Новага папу Льва II (682—683) выбралі толькі 17 жніўня. Ён зацвердзіў усе пастановы Сабора. Да асуджаных монафелітаў папа Леў II далучыў папу Ганорыя, які „апостальскую Сталіцу не праславіў навукай апостальскай традыцыі, а стараўся змяніць беззаганную веру звычайнай здрадай”. У падобны спосаб асудзіў папа Леў II папу Ганорыя ў двух лістах дасланых Касцёлу ў Іспаніі.

Рымскі Касцёл у 1870 г. прыняў дактрыну аб беспамылковасці папы ў справах веры. Калі гэтаму пярэчаць факты, то трэба іх адкінуць. Калі VI Сабор прызнаў папу Ганорыя ерэтыкам, то каталіцкія тэолагі пачалі даказваць, што гэта няпраўда. Так сцвердзіў у XVI стагоддзі кардынал Вароній. Але каталіцкі епіскап з Ратэнбурга, Карл Гефеле даследаваў усе дакументы Сабора і на 12 старонках сваёй „Гісторыі Сабораў” адкінуў хлусню кардынала Варонія. Зрабіў ён гэта ў другім выданні пасля 1871 г., г.зн. пасля прыняцця догмату аб папскай беспамылковасці. Як адзін з „айцоў” Ватыканскага Сабора ў 1870 г. Гефеле апублікаваў (у час Сабора) навуковую брашуру „Causa Honorii papae” („Справа папы Ганорыя”), дзе паказаў, што папа не можа быць беспамылковы, бо Ганорый памыліўся ў справах веры, як найбольш афіцыяльна. Пасля аб'яўлення папам Піем IX дагмату аб беспамылковасці папы, епіскап Гефеле прызнаў увесь Ватыканскі Сабор камедыяй.

Д. ШАТЫЛОВІЧ

## ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ АНДРЭЯ ГАЎРЫЛЮКА

Наш карэспандэнт з Ольштына, вядомы чытачам не толькі „Нівы” але таксама „Czasopisu”, „Przegladu Prawoslawnego” і шматлікіх польскіх газет з паўночнаўсходняй Польшчы, пачаў выдаваць свой часопіс, азагалоўлены „Мая грабіна”. Часопіс прысвечаны справам нацыянальных меншасцяў, якія жывуць на тэрыторыі Вармії і Мазур — беларусаў, украінцаў, немцаў, рускіх, яўрэяў. Андрэй Гаўрылюк з'яўляецца адначасова галоўным рэдактарам часопіса, а мастаком і тэхнічным рэдактарам стаў — таксама вядомы чытачам „Нівы” — інжынер Барыслаў Рудкоўскі з Бельска. У першых двух нумарах змешчаны тэксты на беларускай і польскай, нямецкай і ўкраінскай мовах.

Андрэю і яго сябрам жадаем поспехаў!

Рэд.

## КОЛЬКІ ПРАВАСЛАЎНЫХ?

Часопіс каталіцкай епархіі ў Ольштыне „Posłaniec Warmiński” змясціў такую вось інфармацыю: „W Polsce wiernych wyznania prawosławnego jest 186 163, z czego najwięcej mieszka na obszarze diecezji drohiczyńskiej (82 548) oraz białostockiej (67 000).

Адкуль у іх такая дакладная інфармацыя?

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

## ПАПРАЎКА

Паважаная Рэдакцыя! У сваім допісе „Паветранае дзіва” я памылкова падаў назву мясцовасці. Планёр прызямліўся не па сваёй віне не каля вёскі Рудуты, як я напісаў, а пад **Кашалямі**. Прашу прабачэння ў чытачоў.

М. ПАНФІЛЮК

Новыя кнігі

## ГІСТОРЫЯ КНІЖНАЙ КУЛЬТУРЫ ПАДЛЯШША

У чэрвені бягучага года ў Менску выйшла з друку кніга **История книжной культуры Подляшья*)** з паясняльным падзагалоўкам „Православная церковь на Белостотчине в работах протоиерея Григория Сосны”. Яе складальнікі — Ю. А. Лабынцаў і Л. Л. Шчавінская. Кніга з'яўляецца чарговым выпускам серыі дапаможных інфармацыйна-бібліяграфічных матэрыялаў для распрацоўкі Міжнароднай славянапазнавальнай праграмы. Гэта свайго роду спецыяльнае бібліяграфічнае ўвядзенне ў праблематыку гісторыі праваслаўнай культуры ў Польшчы. У выданні знойдзем падрабязны храналагічны пералік апублікаваных і неапублікаваных прац выдатнага бібліёграфа праваслаўя ў Польшчы а. Рыгора Сасны (ад 1987 года настаяцеля Рыбалаўскага прыхода), а таксама яго эсэ аб гісторыі Праваслаўнай Царквы на Беласточчыне. Ажно 314 загалоўкаў кніг, манаграфій, публіцыстычных артыкулаў, эсэ і іншага роду публікацый! Усё гэта плён 24 гадоў (з 1969 да 1993) працы святара-кніжніка.

Калі хто з чытачоў хацеў бы бліжэй пазнаёміцца з гісторыкам Праваслаўнай Царквы і беларусаведам а. Р. Сасной, дык прапануем прачытаць ва ўступе інфармацыю біяграфічнага характару „Летапісец роднага краю”.

Кніга ілюстраваная рысункамі цэркваў у Рыбалах, Старасельцах і ў Чорнай-Царкоўнай Уладзіслава Петрука, а таксама арнаментыкай з выданняў Заблудаўскай друкарні, якая 425 гадоў назад выпусціла сваю першую кнігу „Евангелле учительное”. Шкада, што тыраж кнігі невялічкі — усяго 300 экземпляраў.

(Я. Ц.)

---------------

**)История книжной культуры Подляшья. Национальная библиотека Беларуси, Минск, 1994 год, с. 79, тираж 300 экз.*

# БАБКА НАТАЛЛЯ ПАМЯТАЕ ІЛЬЮ КЛІМОВІЧА

Бабка Наталля нарадзілася ў 1917 годзе. Ва ўзросце чатырнаццаці гадоў яна цяжка захварэла... На вочы накінулася бяльмо і пагражала ёй слепата на ўсё жыццё. У тыя ж трыццатыя гады ўсю Беласточчыну ахапіў энтузіязм для Ільі Клімовіча з Грыбоўшчыны. Бабка Наталля, жыхарка Фермы, што побач Навасадаў, успамінае:

— Усе ішлі і ішлі только тыя „банды” аж ад Кляшчэляў (воны то так смішно говорат, бо „горкают”). Адны ішлі ў Грыбава, а другія зноў вярталіся. Ну і бацька мне кажуць, што можа так з вачыма маімі пайсці. І мы з сястрой далучылі да адной такой „банды”. Памятаю, што імжыў дождж і мачыў мне хворыя вочы. Я то ўжо і вярнуцца хацела, але як усе ішлі, то мне трэба было таксама. Начавалі ў Новай Волі ў добрых людзей. І калі выйшлі з Новай Волі, то некаторыя ўсё паўтаралі, што купалы царквы ўжо бачаць. Людзі верылі, ім прыдавалася. Зайшлі якраз на Ільлю, бо там быў „празнік”. Тады, як першы раз была, то плябанія пры царкве недаконачаная стаяла. Жыў там таксама якісь манах.

Памятаю, як дзісь гэтага Ільлю — маленькі, худзенькі, босы. Сястра падвяла мяне да яго і кажа, што я сляпая. Ён тады завёў мяне пад царскія дзверы і пачаў над галавою чытаць Евангелле. Сказаў мне таксама, што праз тры дні буду бачыць. І пайшлі мы дахаты. Ідзем, ідзем, а мне галава так разбалелася, што амаль ужо свету не бачу. Думала, што не дайду на месца. У хаце бацькі палажылі мяне ў пасцель і ўсе думалі, што неўзабаве памру. А мне ў сне так прыдалося: бачу зноў царкву, Ільлю, а побач манаха з кварточкай свянцонай вады. Тады Ілья ўзяў гэтую ваду, прамыў мне вочы і кажа: „Дзіця, да смерці свет будзеш бачыць”. Праўда, калі прабудзілася я раніцай, мае вочы былі зусім здаровыя.

Сёння бабцы Наталлі 77 гадоў. З таго часу яна ніколі больш на вочы не хварэла. Зараз жа чытае без акуляраў.

Праз год 15-цігадовая Наталля зноў наведала Грыбоўшчыну. Тады ёй найбольш запамяталася, як Ілья „збешанага” чалавека ратаваў. А быў гэта 20-гадовы хлопец, якога вялі аж сем здаровых мужыкоў. Сілай яго ў царкву завалаклі.

— Як зароў ён у царкве, то аж народ злякаўся, — расказвае бабка. — Ілья выйшаў з крыжам і кажа: „Сатана, адыдзі”. Аж дым пайшоў са „збешанага”. Далей, Ілья ўзяў Евангелле і пачаў чытаць над хворым. Памятаю, як той жа хлопец на зямлю паваліўся. А Ілья ўсё чытаў над ім. І яго, амаль прытомнага хлопца, з царквы вынеслі. На другі дзень выратаваны хлопец сам у царкву прыйшоў і Ільлю ў руку пацалаваў. Людзі надзівіцца на ўсё гэта не маглі.

Бабка Наталля ў Грыбоўшчыне была тры разы. З апошняй пабыўкі запамяталася ёй гісторыя з „Хрыстом”.

— Ля самай царквы расла бульба. Мы стаялі з сястрой і з кімсьці размаўлялі. Народу было там больш, чым цяпер на Грабарцы. Аж тут бачу, як фурманка праз натоўп прабіраецца. Усе загледзеліся. На гэтай фурманцы стаяў „Хрыстос”. Быў ён апрануты ў белую доўгую палярыну, чорныя валасы па плячах пусціў. Ну, ужо так быў падобны да гэтага на абразах, што ўсе толькі на яго глядзелі. А ў царкве тады служыў бацюшка з Гарадка. І людзі яму кажуць: „Во забачце, бацюшка, што то за фокус”. Той „Хрыстос” ехаў з нейкімі „баптыстамі”, ці іншымі. Усё як у Евангеллі напісана. Людзі толькі прыглядаліся. А ён бодра саскочыў з фурманкі і ў прытворак уварваўся. Тут яму нехта дзіця падаў хрысціць. І той пачаў дзіця хрысціць і іншых да гэтага заклікаць. Бацюшка расхвальваўся, але зрабіць нічога не мог. Тады прывялі Ільлю. А той перахрысціўся, падышоў да гэтага „Хрыста” з крыжам і кажа: „Ідзі адсюль, дзівак, табе тут не месца”. Тады прачнуўся народ. Успыхнулі ўсе злосцю на таго ў белай палярыне. І, мабыць, на кускі разнеслі б гэтага „Хрыста”, але ён свіснуў і так шмыгануў праз бульбянішча, што толькі полы трапяталі на ветры.

Якраз менавіта так запамятаўся той „Хрыстос” бабулі Наталлі — бягучы праз бульбянішча з містычным лапатаннем белай палярыны. Сёння бабка ўспамінае Грыбоўшчыну і Ільлю Клімовіча як нешта цудоўнае ў сваім жыцці. Калі згаварыліся пра смерць Клімовіча, бабка сказала:

— Тады, па вайне, то ўсе людзі казалі, што гэтага Ільлю на Сібір вывезлі. Але, даражэнькая *сокуолко*, гэта быў такі худэча і малы чалавечак, што туды не было б чаго і везці.

ГАННА КАНДРАЦЮК

## ЯКОЕ МЕСЦА НА КАРЦЕ НАШАЙ АЙЧЫНЫ, ПОЛЬШЧЫ НАЙБОЛЬШ МІЛАЕ І ДАРАГОЕ? ЧАМУ?

*(Фрагменты вучнёўскіх прац; працяг)*

Я цаню Беласточчыну за яе спецыфіку, якая выражаецца менавіта ў тым, што пражывае тут вялікі працэнт беларусаў, якія шануюць і перадаюць традыцыі, мову і веру сваіх бацькоў. І таму гэтыя нашыя беларускія мясцовасці найбольш мілыя і дарагія майму сэрцу. Адной з такіх мясцін ёсць Новае Беразова — невялікая вёска, дзе я нарадзілася і пражываю. Жыхары маёй вёскі гавораць на беларускім дыялекце. Для некаторых гэта адзіная мова, якую ведаюць. Старэйшыя людзі часта гавораць: „Бо і навошта ламаць нам языкі іншай мовай, калі ўсе і так нас разумеюць". У гэтым сцвярджэнні многа праўды, у ім выяўляецца таксама глыбокая прывязанасць да сваёй роднай мовы, якую многія маладыя людзі не ўмеюць ужо шанаваць і не перадаюць яе сваім дзецям, каб „яны маглі добра гаварыць папольску". Але што гэта за беларус, які не ведае мовы сваіх продкаў.

Новае Беразова — гэта праваслаўная вёска. Народ наш вельмі набожны і шануе традыцыі. Кожную нядзелю вернікі збіраюцца ў царкве. У нашай вёсцы дзве царквы, яны лічацца цікавымі помнікамі старадаўнасці. Царква Іаана Багаслова была пабудавана ў 1771 годзе, фундатарам яе была І. Браніцкая. Спачатку гэты храм быў уніяцкім. Парафіяльнай царкве Ўзнясення Гасподня таксама ўжо 121 год. У нас ёсць яшчэ царква на могільніку і дзве капліцы. Гэтыя храмы вельмі багата аздоблены і адзначаюцца цікавай архітэктурай. Яны вельмі важныя для мяне менавіта таму, што мяне тут ахрысцілі і сюды як у святасць навучыла хадзіць мяне мама. За гэта я ёй вельмі ўдзячна.

Чаму яшчэ мне мілая і дарагая мая вёска? У вёсцы я найбольш люблю святы, таму што менавіта тады яна адкрывае ўсе свае чароўнасці, якія выражаюцца ў асноўным у традыцыях. Многа цікавых абрадаў і звычаяў, звязаных, напрыклад, з Калядамі, Новым годам, Вялікаднем. Гэтыя святы адзначае ў нас цэлая вёска. Святочны настрой пануе ўжо некалькі дзён перад святам.

Моладзь таксама не адказваецца ад нашых беларускіх традыцый: на Каляды, напрыклад, калядуем, на Новы год цяжка адшукаць сваю брамку або вароты. Ва ўсе святы па ўсёй ваколіцы разносіцца трывожны голас царкоўнага звана.

Яшчэ я люблю сваю мясціну за тое, што жывуць тут мае блізкія, якіх я ведаю ад нараджэння і за гэтых 18 год зжылася з імі і адчуваю сябе вельмі добра сярод іх. Па-мойму, вёска — гэта большая сям'я і менавіта гэта адрознівае яе ад горада.

Яшчэ люблю сваю мясцовасць за яе прыгажосць. Колькі ж красы і славы прыдае ёй наша Белавежская пушча, у якой поўна старых дрэў — сведкаў яе гісторыі.

Усё гэта складаецца на тое, што найпрыгажэйшым і найдаражэйшым месцам у нашай краіне з'яўляецца для мяне наша Беласточчына.

* * *

Месца, дзе я жыву ад нараджэння, дзе жылі мае бацькі і дзяды, з'яўляецца мне найдаражэйшым не толькі ў Польшчы, але на ўсёй зямлі. Гэта вёска Тыневічы і суседнія: Лапухоўка, Камень, Кленікі, Нараў і многія калоніі.

Мая вёска і ваколіца таму мне так мілыя, што я тут расла, бачыла змены, якія тут наступалі, ведаю амаль што ўсіх людзей. У нас многа людзей старых, а моладзі — вельмі мала. Уся наша вёска — гэта адна большая сям'я. Ідучы па вуліцы заўсёды можна з кім-небудзь пагаварыць, пасмяяцца. Вядома, не ўсе людзі прыемныя, але такіх нямнога.

Мне цяжка было б жыць далёка ад нашай вёскі: без лесу, лугоў, дрэў ля дома. Найдаражэйшымі маімі вобразамі ёсць: белыя бярозкі перад домам, маладая чаромха ў садзе, кот, які сядзіць на парозе і чакае, каб яго пусцілі ў хату, жывёла, якая ходзіць па панадворку. Мне гэта мілейшае за ўсё, гэтых вобразаў я ніколі не забуду. Прыгажосць і прастата штодзённасці мяне захапляюць і я не магу адсюль адысці назаўсёды. Сапраўднае шчасце — жыццё сярод роднай прыроды. Мне цяжка было б жыць, калі б я не магла ўбачыць усход і захад сонца. Прыгажосць усходу і заходу сонца найлепей убачыць позняй восенню. Дзень тады кароткі і калі я ўстаю, сонца ўзыходзіць, а калі вяртаюся са школы — заходзіць. Гэта сапраўды прыгожая з'ява прыроды. Я магла б глядзець на гэта без перапынку. Кожнага дня ўсё выглядае інакш, а ранак і вечар явяцца мне ў новых колерах. Я тады шчаслівая, што магу падпільнаваць сонца, як яно „будзіцца" ці „кладзецца спаць". Дзякуючы таму, што я жыву на вёсцы, магу захапляцца гэтым хараством. У вялікім горадзе, за высокімі будынкамі гэтага не ўбачыш.

Я люблю таксама прыглядацца порам года. У кожнай пары свая прыгажосць, свае колеры і ўсе захапляюць на свой спосаб, але цяжка сказаць, якая з іх найпрыгажэйшая. Іх прыгажосць падтрымлівае вёска. Толькі тут можна пабачыць сапраўдную прыгажосць прыроды і пары года. Нідзе больш гэты вобраз не ёсць так мілы сэрцу, як у сваёй роднай мясціне, на сваёй зямлі, дзе ведаеш усе куточкі.

Я жыву каля лесу, таму амаль усе птушкі знаходзяцца каля дому. Яны будзяць мяне кожнай раніцы. Вясной і восенню назіраю, якія птушкі прылятаюць да нас, а якія адлятаюць. Найбольш люблю глядзець як прылятаюць шпакі, ластаўкі і буслы. У нашых старонках ёсць нават павер'е, звязанае з прылётам буслоў: калі ўбачыш вясной першага бусла ў палёце — у гэтым годзе чакаюць цябе самыя поспехі, калі ён стаіць ці сядзіць — табе не павязе.

Вялікую ролю ў тым, што я так моцна прывязана да гэтага кутка адыгрывае таксама мова, якую я ведаю з дзяцінства. Яна мне вельмі дарагая. Дзякуючы ёй я сабе ўсведамляю, кім я сапраўды з'яўляюся і адрозніваю сваю нацыю ад іншых.

*(заканчэнне будзе)*

**Да друку падрыхтаваў**
**ВАСІЛЬ САКОЎСКІ**

## АПОШНІЯ З МАГІКАН

*Працяг са стар. 8*

— Нашыя калектывы давалі таксама канцэрт у мясцовасці Лобча Лунінецкага раёна. Гаворка ў іх, як у ваколіцах Бельска ці Гайнаўкі. Палеская гаворка. Хацелася б падзякаваць за цудоўны прыём у Лобчы, асабліва дырэктару тамашняга калгаса, дырэктарцы дома культуры і ўсім удзельнікам самадзейнага мастацкага калектыву.

Прымалі нас з вялікай пашанай. Дырэктар калгаса перад канцэртам абвазіў нас па калгасных палях, паказаў ферму кароў, цялят і многае іншае. З любасцю глядзеў ён на сваю гаспадарку, і гэта пачуццё перадавалася нам. Кідаюцца тут у вочы новенькія катэджы, іх звыш 100, а ў кожным па 4—5 пакояў. Толькі што яны былі перададзены ў карыстанне сялянам, у тым ліку 70 — для сем'яў пацярпеўшых у Чарнобыльскай зоне. Усё расце вялікае — морква, бульба, якую можна ўжо капаць. Апрача прысядзібных участкаў, дырэктар выдзяляе з калгаснага поля спецыяльныя дзялянкі для калгаснікаў, дзе можна штосьці вырасціць, выкарміць дзякуючы ім дадатковую свінку. Вельмі цікава было пагладзець на ўсё гэта!

*— Перада мной новенькае, толькі што ўбачыўшае свет выданне — „Repertuar zespołów folklorystycznych Białostocczyzny. Zeszyt nr 2", выдадзенае ВААКам. На 116 старонках сабраны тут песні фальклорнага калектыву з Дабрывады. З нотамі апублікаваны на лацініцы 94 беларускія песні, падзеленыя на 3 раздзелы: I — абрадныя гадавога календара (веснавыя, рагулькі, сенакосныя, жніўныя), II — сямейна-абрадныя (каравайныя, вясельныя, хрысцінныя, бяседныя), III — розныя песні. Гэта ўжо другі зборнік песень, якія спяваюць беларускія калектывы. У 1991 годзе быў выдадзены зборнік „Мая зямля", у якім сабраны песні Міколы Ігнацюка з Рыбалаў. Чаму цяпер Вы выбралі менавіта песні калектыву з Дабрывады?*

— Паколькі яны найдаўнейшыя і найцікавейшыя.

*— Ваяводскі асяродак анімацыі культуры выдаў гэту кніжку, але ж Вы былі яе рэдактарам?!*

— Што значыць рэдактарам? Я выбраў рэпертуар, зрабіў нотную транскрыпцыю і падрыхтаваў зборнік да друку.

*— І яшчэ зрабілі карэкту?*

— Ну, зразумела. Але карэкта гэта была ўжо другарадная справа. Цяжэй было спачатку. Бывала, дамовіўся, прыехаў, запісаў на стужку, паправіў тэкст, а тут нехта прыпомніў сабе яшчэ адзін куплет, дык еду зноў, а нехта тым часам успомніў іншыя песні, яшчэ не запісаныя...

Ну, трэба было зрабіць нотную транскрыпцыю, скласці песні ў раздзелы, падрыхтаваць да друку. Даявілося паправіць і паправіць. Гэта ж дыялект. У мове дабрывадскіх спявачак ёсць дыфтонгі, ды і іншыя моманты, якія цяжка перадаць польскаму чытачу, таму тут так многа зносак, паясненняў. Праца над гэтым зборнікам пачалася ў верасні 1993 года, а з друку выйшаў ён 14 чэрвеня 1994 года.

*З усяго пачутага ад Вас сёння і яшчэ крыху раней вынікае, што наш народ яшчэ не зусім памёр?!*

— На жаль, мы тут, здаецца, апошнія з магікан. У нашай моладзі ўжо няма натуральнага інстынкту да працягвання традыцый.

*— Можа часы змяніліся, а можа ёсць у гэтым значаная частка і нашай віны...*

*Гутарылі 27 чэрвеня 1994 г.*
**Фота Ады Чачугі**

## УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

### Частка XV

У папярэднім адрэзку напісаў я, што ў Уладзіміра Клішэвіча паявілася непераможнае імкненне да непасрэднага кантакту з Радзімай. Чаму? На так пастаўленае пытанне можа адказаць толькі той чалавек, які радзіму страціў. Што датычыцца Уладзіміра Клішэвіча, дык адказвае ён многа разоў у сваіх вершах. Аўтар як бы забываў аб жудасцях грамадскага і нацыянальнага жыцця на Радзіме, але ніколі не забыў аб прыгажосці роднай прыроды. І якраз родны пейзаж стане тым магнітам, які безупынна прыцягваў паэтава сэрца. У вершы „На чужыне" Уладзімір Клішэвіч пералічвае ўсе тыя птушкі, якія найбольш характэрныя для беларускага пейзажу: буслы, ластаўкі, сарокі, салаўі. Скардзіцца, што гэтых птушак няма ў Амерыцы і што ў сувязі з гэтым амерыканская прырода пазбаўлена прыгожага беларускага атрыбута. Верш гэты паэт заканчвае адназначна адмоўным для Амерыкі пуантам:

*Ды іх няма. Жыццё няміла.*
*Што мне з таго — калі б ды каб...*
*Дарма патрачаны ўсе сілы,*
*Я на чужыне вечны раб.*

У вершы гэтым, як і ў многіх іншых, заснаваных на лірыцы ўспамінаў, выступае выразная ідэалізацыя роднай прыроды, узвышэнне яе і прыніжэнне прыроды амерыканскай.

Складаецца такое ўражанне, што паэт досыць тэндэнцыйна назірае за чужыннай рэчаіснасцю і дабывае з яе ўсе тыя элементы, якія яму не падабаюцца. Прыкладам такой трактоўкі акружаючага свету можа быць верш „Конь", у якім аўтар жаліцца над лёсам гарадскога каня, а ў апошняй страфе праводзіць непасрэдную аналогію паміж сабой і гэтай жывёлінай.

*Толькі доля мая другая,*
*Хоць адналькава цяжка нам:*
*Гаспадар цябе ў воз запрагае,*
*Я ж сябе запрагаю сам.*

Такога тыпу асацыяцыі, хаця і перакануча пападалі ў сэрца чытача, неслі ў сваім нутры зерні пэўнай спрошчанасці, а можа ў нейкай ступені і вульгарызацыі амерыканскай рэчаіснасці і сітуацыі беларускіх выгнаннікаў у ёй. Аднак час ад часу ў эміграцыйнай лірыцы Уладзіміра Клішэвіча пападаюцца і высокамастацкія ды паглыбленыя творы, у якіх цікава і арыгінальна адлюстроўваюцца пачуцці і настроі беларуса, які ад дзяцінства прывык да акрэсленага тыпу роднай прыроды і таму, папаўшы ў абдымкі чужога пейзажу, ніяк не можа вызваліцца з палону роднага краявіду. З такога тыпу трактоўкай праблемы маем дачыненне ў высокамастацкім лаканічным вершы, які пачынаецца ад слоў: „Шумяць ад ветру кіпарысы..."

*Шумяць ад ветру кіпарысы ўсцяж,*
*І тоне погляд ў яркай неба сіні.*
*Мне вецер шэпча: "Адпачні, прыляж,*
*Няхай душа ад роспачы астыне!"*
*І бачыць роднае журботны чалавек:*
*Шумяць бары, вядуць размову гоні;*
*Азёраў люстры, стужкі срэбных рэк*
*І ціхія прываблівыя тоні.*
*О, як прыемна марыць у цішы!*
*Плывуць, плывуць чароўныя ўспаміны.*
*Нясу Радзімы вобраз у душы*
*І так да скону несці не пакіну.*

Усё ў гэтым вершы патрэбнае, усё прыгожае і ўсё шчырае. І якраз крытэрый патрэбнага, прыгожага і шчырага дазваляе выставіць гэтаму твору высокую ацэнку.

Чытаючы і перачытваючы вершы эмігранта Клішэвіча прыходзім да вываду, што гэты творца не кіруецца ў сваім жыцці толькі прынцыпам надзённага хлеба, поўнай талеркі, добрай вопраткі, багатай хаты. Наколькі мне вядома, усё гэта Уладзімір Клішэвіч у Амерыцы прыдбаў. Прыдбаў многагадовым высілкам уласных рук. Аднак усё гэта не задавальняла яго. Прагнуў ён непасрэднага сутыкнення з Радзімай, з яе хараством, з яе суровасцю, з яе ўбоствам. Сэрца паэта безупынна пеставала матуў прыезду ў Беларусь, без якой жыццё здавалася яму быць з'явай пустой і бессэнсоўнай.

У палове шасцідзесятых гадоў паэт напісаў як жа красамоўны верш „Маці-Беларусь".

*Яшчэ цябе, краіна дарагая,*
*Як маці родную да сэрца прытулю,*
*Пакуль мне смерць адходную заграе*
*Перад адходам вечным у зямлю.*

Не асуджайма паэта. Старайма́ся зразумець яго.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астронку! Прыснілася мне, быццам сяджу я ў нейкай хаце, быццам у цёткі — у іх свой дом. Раптам чую, што нехта ходзіць па калідоры. Выходжу, занепакоеная, і бачу, што гэта пісьманосец. Ён у блакітнай кашулі, апрануты як паліцыянт.

Я пачынаю размаўляць з гэтым чалавекам, але нейкая я насцярожаная, не надта веру яму, падазраю, што ён — бандыт. Неўзабаве заўважаю, што ў яго вельмі дзіўныя вочы! Вочы манюкі. Мне робіцца страшна.

Раптам бачу, што побач з гэтым чалавекам стаіць велізарны сабака рыжа-бэжавага колеру. Ой, Божа, такі вялікі, быццам цялё нейкае. Сабака паволі набліжаецца да мяне. Я заўважаю, што ён даволі прыгожы. Але сабака неспадзявана кідаецца ззаду мне на карак і прабуе мяне паваліць. Яму дапамагае той нібыпісьманосец. Я разумею што ўвесь гэты напад быў загадзя падрыхтаваны. І тады крычу колькі сілы: „Ратунку! Ратунку!"

Лічу на тое, што, можа, цётка выйдзе, а мо людзі з вуліцы ці паліцыя. І тут адчыняюцца дзверы з вуліцы і мне на ратунак убягаюць людзі і паліцыянты.

Астронку, што мяне чакае?

**Галя**

Галя! Той сабака, што кінуўся на цябе, і пераапрануты бандыт сведчаць аб тым, што ёсць у цябе нейкі вораг, які чарговы раз пастараецца табе падставіць нагу. Будуць непрыемнасці, клопаты. Скончыцца ўсё, аднак, добра. Бо ўсё ж адчыніліся дзверы і паказаліся твае вызваліцелі.

**АСТРОН**

# ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ

**Як доўга варта трымаць курыцу**

Кожная курыца мае ў сабе каля 600—700 зародкаў, з якіх растуць потым яйкі. Калі курыца корміцца добра, яйцаноскасць павялічваецца, але за тры-чатыры гады курыца нясецца вельмі мала і ў гэтым выпадку корм каштуе даражэй, чым знесеныя яйкі.

З гэтага вынікае, што курыцу-нясушку трэба трымаць не болей як тры, найбольш чатыры гады.

**Адкормліванне гусей**

Гусі ў нас найчасцей прадаюцца проста з выгану. Далёка выгаднней было б прадаваць ужо адкормленых гусей, бо той, хто хоча забіць на мяса гусь, мусіць яшчэ яе адкарміць, яму каштуе апрача працы яшчэ і корм, што ў гаспадарцы абходзіцца значна танней і астанецца дарма гной. Кормных гусей кормяць гарохам, а найчасцей сухімі галушкамі, спечанымі да суха з горшай мукі (аржаной, аўсяной і ўсякай іншай) або вотруб'яў. Зярняты або галушкі ўпіхаюцца гусі ў горла, пакуль лезуць, ці як кажуць „пакуль можна дастаць пальцам", пры гэтым сухія галушкі адмочваюць у вадзе, каб былі коўзкія. Гусь корміцца два тры тыдні, часамі і месяц.

**Зялёны кроп на зіму**

Сабраны зялёны кроп пакрышыць і злажыць у слоікі пластамі, добра перасыпаючы кожны пласт соллю і злёгку прыбіваючы. Прыкрыць чыстаю тканінаю і прыцiснуць каменьчыкам. Трымаць у халодным свірне або ў сухім склепе.

Пры ўжыванні такога кропу патрэбную колькасць заўсёды перамываць у халоднай вадзе.

**Як зрабіць добрае піва**

Шэсць літраў вады, кавалак цыкоры, паўшклянкі цукру, добрую жменю хмелю і два дэкаграмы дрожджаў — матэрыял недарагі. Хмель і цыкорую ўсыпаць у ваду і варыць гадзіну, потым, калі астыне, працадзіць. У працэджаны адвар пакласці дрожджы і цукар, а калі ўжо зусім астыне — разліць у бутэлькі. Піць можна ўжо праз два дні.

**ЯСЕНЬ**

ЗЬВЯЗ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

ЗАПРАШАЕ НА РЭЙД




СУСТРАКАЕМСЯ ВЕЧАРАМ 1 ЖНІЎНЯ

Ў КРЫНКАХ НА АЎТОБУСНЫМ ПРЫПЫНКУ

02.08. КРУШЫНЯНЫ

03.08. СТРАШАВА

04.08. ЗАЛУКІ

05-06.08. СУПРАСЛЬ

УЗЯЦЬ З САБОЮ СПАЛЬНІКІ І ЯДУ.

КОШТ УДЗЕЛЬНІЦТВА : 75.ТЫС.ЗЛ.




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ЛЕТНІЯ ЯГАДЫ Ў БУЛЦЫ**

Прадукты:

*50 дэкаў свежай маліны, найлепш лясной,*
*10 дэкаў чырвоных парэчак,*
*паўшклянкі цукру,*
*1 батон (вагою каля 50 дэкаў),*
*збітая смятана.*

Памытыя ягады перамяшаць з цукрам, паставіць на агонь, закіпяціць. Варыць усяго мінут пяць. З булкі зняць скурку, нарэзаць даволі тонкія лустачкі. Палавіну булкі разлажыць у невялікай тартоўніцы. Падтушаныя ягады палажыць на булку, накрыць рэштай булкі, спырснуць сокам, адцэджаным з вараных ягад. Пірог накрыць пергаментнай паперай, накрыць дошачкай і ўставіць прынамсі на гадзіну ў халадзільнік. Падаючы, палажыць наверх збітую смятану.

**ГАСПАДЫНЯ**

# ВІРАВАНКА



1. тонкая вяровачка для звязвання, 2. лясная птушка сямейства цецерукоў, 3. касцяк чалавека, 4. маса лёду на схіле гары, 5. плавае на караблі, 6. частка механізма машыны, 7. адсутнасць гоману, 8. каштоўны метал, 9. кніга для фотаздымкаў, малюнкаў, вершаў, 10. ядавітая расліна, 11. ручка ў дзвярах.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 22 н-ра:**

**Гарызантальна:** малако, пазыка, Ламарк, рагу, асот, славянафіл, даяр, Акра, Анкара, даліна, дазвол.

**Вертыкальна:** манера, кола, парк, кампот, марыянетка, гусляр, асілак, дарада, раскол, Анна, рада.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Пётр Байко** з Белавежы і **Мікалай Сазановіч** з Навінаў-Вялікіх.

# АДЗІН У ТЛУМЕ

Калі няма ў цябе блізка нікога з сям'і ці добрага сябра, ты адзінокі ў тлуме. Пераканаліся аб гэтым бацькі дваццацігадовага Лукаша.

У нядзелю іх адзіны сын рашыў пайсці да сяброўкі. Жыла яна каля двух кіламетраў ад іхняга дому. Хлопец не хацеў чакаць гарадскога аўтобуса, бо, маўляў, штодзённа ездзіць ім на працу, то і горада не пабачыць. Хоць шпацыр невялікі, варта паглядзець, якія новыя крамы паадчынялі.

Хлопец ішоў і раптам адчуў востры боль у сэрцы. Упаў.

Людзі ішлі ды глядзелі на ляжачага, акуратна апранутага мужчыну, але ніхто не падумаў патэлефанаваць па дапамогу. Відна, думалі, яшчэ адзін пачынаючы п'янчужка, з якога яшчэ не паспелі сцягнуць скураное курткі. Толькі праязджаючы паліцэйскі патруль затрымаўся. Завезлі Лукаша ў бальніцу. У прыёмнай лекар сказаў:

— Што вы мне прывезлі трупа? Калі б раней недзе на дваццаць хвілін, я змог бы яго ўратаваць!

На пахаванні бацькі рвалі сабе валасы з галавы.

— Аддаем зямлі тое, што ў нас найдаражэйшае! — галасілі. — Не ўдалося нам дачакаць, сынок, твайго вяселля, не дачакалі мы ўнукаў-спадчыннікаў!..

— Што то цяпер з людзьмі парабілася! — ківалі галовамі людзі. — Якія ўсе нячулыя сталі... Чалавек адзінокі ў натоўпе людзей! Яшчэ год дзесяць таму сказалі б, што ў Амерыцы такая нячуласць да чужых справаў, а цяпер то і да нас прыйшла тая хвароба.

**АЎРОРА**

# ГАРАСКОП ДРУІДАЎ

У Наваградскім раёне ёсць невялікая вёска Бойкі. Паходжанне яе назвы, відаць, трэба звязаць з назвай бойеў, аднаго з шматлікіх кельцкіх плямёнаў, якія ў сярэдзіне апошняга тысячагоддзя да нашай эры займалі вялікую тэрыторыю паміж Альпамі, Пірэнеямі, Атлантычным акіянам, Рэйнам, а таксама і на Брытанскіх астравах. У IV стагоддзі да н.э. трапілі кельты на тэрыторыю сучасных Чэхіі і Славакіі, у Карпаты, дзе і цяпер жывуць бойі, а пазней і ў беларускае Панямонне. У кельтаў былі жрацы, якія называліся друідамі. Апроч рэлігійных абрадаў яны выконвалі функцыі лекараў і суддзяў, не цураліся палітычнай дзейнасці і нават узначальвалі барацьбу з рымскімі захопнікамі. Каб увайсці ў вышэйшую касту жрацоў, друіды павінны былі на працягу 20 гадоў жыць сярод прыроды, у лесе, займаючыся медытацыяй, таемнымі навукамі, спасцігаючы законы і таямніцы прыроды. Яны назіралі жыццё лесу, да якога адносіліся з пашанай, асобных дрэў. Лічылі чалавека неаддзельнай часткай прыроды, такім жа дрэвам. Зразумела, за столькі гадоў назірання можна было заўважыць пэўныя асаблівасці дрэў, характэрныя і для чалавека. Кожны з людзей, па іх уяўленню, мае свайго адпаведніка ў адной з парод дрэў. Невыпадкова, відаць, і ў беларусаў ёсць прозвішчы, якія паходзяць ад слоў дуб, граб, ясень, бук, вяз...

**ПІХТА,** *(2—11 студзеня, 5—14 ліпеня).* Род гэтых вечназялёных дрэў налічвае каля 50 відаў. Усе яны вылучаюцца вышынёй (да 60 метраў), гладкай, светлай, тонкай карой, мяккай цёмназялёнай хвояй. Таму піхту часта садзяць як дэкаратыўнае дрэва. Для аздобы каля 100 гадоў таму назад былі пасаджаны, напрыклад, 2 каўказскія піхты ля сядзібы ў маёнтку Манькавічы Столінскага раёна. Дрэўцы выраслі да 30 метраў у вышыню, а да максімальнай таўшчыні ім не хапае ўсяго толькі... паўтара метра. Упрыгожваць парк „Манькавічы" будуць яны яшчэ гадоў 400. А вось у Белавежскай пушчы „дзіка" расце піхта белая (з белаю карою), радзіма якой — горы паўднёвай часткі Заходняй Еўропы.

Як меркавалі друіды, у людзей, што нарадзіліся з 2 па 11 студзеня і з 5 па 14 ліпеня, пастава і характар адпавядаюць піхце. Яны ўражваюць сваёй годнасцю і стрыманасцю, але вельмі цяжкія для сумеснага жыцця — непастаянныя, упартыя, капрызныя. Сярод іншых людзей яны выглядаюць з-за сваёй гардыні адзінокімі. Вялікае пачуццё ўласнай годнасці, вялікія амбіцыі, працавітасць, як у мурашак, і немалыя здольнасці дапамагаюць ім здабыць славу, пашану і высокую пасаду. Яны маюць шмат сяброў, але не менш і ворагаў. Ды хоць піхта непрыступная і халодная, аднак на яе можна разлічваць у кожнай патрэбе.

*(працяг у наступным нумары)*

**(М.)**





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




*ВІНЦУК ПУГАЧ*

**ШТО СПАЛІЦЬ ЯШЧЭ?**

*Запалю я печку, запалю,*
*Гляну у агонь і засмяюся,*
*Бо успомню, што цябе люблю,*
*А за што люблю — не разбяруся.*
РАІСА АЎЧЫННІКАВА

Не гарыць жа печка, не гарыць
І не помню я зусім нічога:
Ці кахаць, ці трэба палюбіць
Мне цябе — суседа выбітнога?

Назбяру я вершаў, назбяру
Са стала і з-пад стала з ахвотай.
Ды не ўспомню рукапіс-гару,
Што ляжыць на вуліцы ля плота.

Запалю я печку, запалю,
Пагляджу ў агонь і засмяюся,
Бо я ўспомню, што цябе люблю,
А за што люблю — не разбяруся.

І сядзець мне ля агню ў журбе,
Думку-думу свежую жывіць:
Каб жа разабрацца мне ў сабе,
Можа Менск мне сёння запаліць?

## СЕНТЭНЦЫІ

Парог — гэта лінія,
на якой спатыкаюцца
дзве супрацьлеглыя ісціны.

* * *

Паркет, хоць бы ўзор меў мармуру,
толькі цень красы дрэва жывога.

* * *

З попелу жыцця
толькі немінучасць шчэрыць зубы.

* * *

З-пад крыгі і кат выглядае як мучанік.

**БАРЫС РУСКО**







— *Ты ж сама бачыш, што тут нельга рабіць паварот.* **Мал. В. Максімава**

### ЦЯЖКАЯ СІТУАЦЫЯ

Дваццаць пяць салдат адной роты спазніліся ў казарму са звальнення. Камандзір павёў разбор. Першы салдат расказаў, што быў дома, пайшоў у лес, лёг там адпачыць і заснуў. Прачнуўшыся, убачыў, што позна ўжо, папрасіў у суседа каня і паімчаў на станцыю. Але па дарозе конь здох. З-за гэтага салдат і спазніўся на цягнік. Далей дабіраўся пехам...

Падобныя на гэтае далі тлумачэнні камандзіру яшчэ 23 салдаты. Калі дайшла чарга да апошняга, камандзір спытаў:

— Ты таксама быў у лесе?
— Абсалютна так, таварыш камандзір!
— І заснуў там?
— Так точна!
— І прачнуўся ноччу?
— Так точна!
— І папрасіў у суседа каня?
— Не каня, а легкавушку, таварыш камандзір. Але калі я прыехаў амаль паўдарогі, убачыў, што наперадзе ляжыць цэлая гара конскіх трупаў, якую нельга было аб'ехаць. Таму і спазніўся, бо давялося кінуць машыну і дабірацца пехам...

**Запісаў Д. РАМАНОВІЧ**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Зблудзіла я, ойча — прызнаецца ксяндзу пажылая жанчына падчас споведзі.
— У вашых гадах гэта немагчыма...
— Сапраўды, здарылася гэта не ўчора, толькі трыццаць гадоў таму.
— Дык чаму ж толькі цяпер выяўляеце свой грэх?
— Прыемна, ведаеце, так паўспамінаць.

* * *

— Калі жанчыны найменш гавораць?
— У лютым, бо гэта найкарацейшы месяц.

* * *

— Чаму ты без майго дазволу памалявала сабе валасы? — дакарае муж жонку.
— Даражэнькі, а ці ты пытаў мяне, калі запускаў лысіну?

* * *

— І ты сапраўды верыш, што камінар прыносіць шчасце?
— Так, з тае пары, калі адышла з ім мая жонка.

* * *

Муж шэпча жонцы ў вуха:
— Каханая, твае грудзі як разынкі...
— Такія салодкія?
— Не, такія паморшчаныя.

* * *

У аптэцы мужчына голасна заказвае пяць прэзерватываў.
— Цішэй! — паўчае яго аптэкарка. — За вамі стаяць адны жанчыны.
Мужчына аглядаецца:
— О, Еўка! Прывет!
Да аптэкаркі:
— Дайце яшчэ адзін!

Запісаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

## Д'ЯБЛЫ

*(працяг; пачатак у н-р 40 за мінулы год)*

**Д'ябал-маркітун**

На жаль, пра гэтую пачвару можна казаць толькі ў мінулым часе, бо апошні прадстаўнік д'яблаў-маркітуноў у нашым краі сканаў летась. Ягоную клiентуру складалі пераважна сексуальна незадаволеныя жанчыны і дзеўкі, якія з прычыны сваёй звышюрлівасці не маглі задаволіцца па-чалавечы. Справа ў тым, што Д'ябал-маркітун мае не адзін, а тры чэлясы, і таму можа здзяйсняць палавыя стасункі бесперапынна, пакуль працуе адзін чэляс, два другія астываюць.

Не адно стагоддзе Д'ябал-маркітун задавальняў патрэбы юрлівых жанчын, выкарыстоўваючы свае цудоўныя прылады. Кабеты, не вагаючыся, аддавалі яму свае бессмяротныя душы за адзін толькі акт. Іншыя д'яблы шчыра зайздросцілі свайму калегу, бо самае страшнае, што пагражала маркітуну — гэта сустрэча з мужамі сваіх партнёрак, але пры здольнасці пачвары станавіцца нябачным для мужчынскага вока, ён заўсёды пазбягаў кары.

Але нават пякельныя сілы, ствараючы траісты чэляс, не маглі даўмецца да вычварнай распусты артысткі аднаго з менскіх вар'етэ — Анжалікі Б. Пра яе ненажэрнасць ведалі ўсе сталічныя аматары вычварнае распусты. Тэлефон Анжалікі Б. можна было знайсці ў кабінках усіх грамадскіх прыбіральняў побач з падрабязнымі апісаннямі гінекалагічных параметраў і акрабатычных здольнасцяў. Відаць, у адной з прыбіральняў Д'ябал-маркітун і прыгледзеў яе тэлефон і самаўпэўнена вырашыў, што яе бессмяротная душа дастанецца яму без асаблівых высілкаў.

Гэтым разам пачвара жорстка памылілася...

Убачыўшы траісты чэляс, Анжаліка Б. адразу ж знайшла для яго суадносна нетрадыцыйны ўжытак: яна пагадзілася абмяняць сваю душу на акт, які падаўся нават Д'яблу вычварным і рызыкоўным. Але прафесійная цікаўнасць і прага атрымаць душу юрлівай паненкі аказаліся мацней за пачуццё самазахавання і Д'ябал падпісаў пагадненне, згодна якому мусіў задаволіць артыстку вар'етэ.

Справа ў тым, што раней яму ніколі не даводзілася выкарыстоўваць траісты чэляс адначасова для анальнага, вагінальнага і аральнага сексу. Праз нейкіх дзве гадзіны напружанае працы д'ябальскія інструменты перагрэліся і пачвара сканала ад апёкаў, а паколькі Анжаліка так і не паспела спазнаць сапраўдны аргазм, то дамова страціла сваю сілу.

Дарэчы, па гэтым здарэнні была ўзбуджана крымінальная справа, якая і дагэтуль не завершана, бо ў крымінальным кодэксе няма артыкула, які б прадугледжваў адказнасць за здзек над пачварай. Праўда юрысты мяркуюць зрабіць заходы з іншага боку, каб пакараць Анжаліку Б., паколькі пасля загібелі Д'ябла-маркітуна ў грамадскіх прыбіральнях павялічылася колькасць згвалтаванняў мужчын, у якіх небяспадстаўна падазраюць гэтую паненку.

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС і МАРЦІН ЮР**

# ПІШУ ЯК ЖЫВУ

*(вынятка з кнігі)*

* * *

Добра знаёмая мне польская літаратурная сям'я, у якой і сам „пан дому" пісьменнік, і „пані дому" пісьменніца, і дачка паэтка, і зяць паэт. Больш дарослых пакуль што няма.

Падаючы далейшае, прозвішча „панства дому" прыйшлося змяніць.

Пані вядзе на праходку цюціка. Насустрач ім — таксама літаратар, але з тых, што не надта салідныя, а да таго яшчэ і выпіўшы. Праўда, капялюш прыпадняў ён ветліва, аднак і спытаўся:

— Проша пані, чы песэк Кусьнежэўскі руўнеж пішэ?..

Мы са сваімі літаратурнымі сем'ямі да „песка" яшчэ не дайшлі. Усюды наша адсталасць!..

**ЯНКА БРЫЛЬ**




Мілае Сэрцайка! Хачу, каб ты паслухала, якія смешныя бываюць жанчыны, і напісала нешта для іншых у форме параэджання.

Ёсць у мяне адна надта самаўпэўненая сяброўка. Не скажу, каб была яна брыдкая, і не скажу, што яе муж — прыгажун. Але што сабака ён, дык гэта факт. Лётае за дзяўчатамі, быццам бы быў яшчэ хлопцам. Ніводнай прыгажэйшай не прапусціць, калі толькі яна не ўвапрэцца. Жонку пры гэтым умее так ашукаць, што нават ёй падазрэнне ніякае ў галаву не прыйдзе.

Я ўжо гэта даўно заўважыла, але сяброўцы нічога не гаварыла. Навошта ж, думаю, мне мяшацца ў чужыя справы, няхай кожны сам пра сябе клапоціцца. А, зрэшты, думала я, яшчэ з-за мяне пасварацца і мне будзе непрыемна. Магу я нават і сяброўку страціць. Ды і навошта мне нішчыць яе ўяўнае шчасце. Няхай верыць яму, калі такая дурная.

Але вось аднойчы сустрэліся мы з ёю ў адной супольнай знаёмай. Сядзелі даўгавата, пілі каву, віно. Засядзеліся. Я кажу жартам, што мушу вяртацца дахаты, бо муж да іншых пойдзе, а гэта мая сяброўка і кажа: „Добра вам так! Нават пасядзець спакойна і каву выпіць нават не можаце. Баіцеся, каб мужык з хаты не ўцёк. А я дык за свайго зусім не баюся. Заўсёды ведаю, дзе ён можа быць, і ў кожную хвіліну магу знайсці яго!"

Пачуўшы гэта, мы моўчкі пераглянуліся з гаспадыняй. Павер мне, Сэрцайка, я б далей маўчала так, як рабіла гэта ўжо ладных пару гадоў. Але ж...

Сяброўка мела выразнае натхненне да эратычных размоў. Не ведаю толькі, чаму прычапілася да майго мужа, што нібыта бачыла яго з нейкай дзяўчынай у кіно, што калісь на нейкай забаве ўвесь вечар абтанцоўваў іншых, а я быццам сядзела, калі ўсе танцавалі. Сяброўка, відаць было, хацела мне зрабіць прыкрасць.

Ну, і я не вытрывала. А столькі ж разоў і я бачыла, што вычварае яе мужык. Як яна паехала да бацькоў на вёску, дык усіх (па чарзе, вядома) яе сяброўак да сябе запрашаў. Кожная магла кахацца з ім, абы толькі хацела. Дарэчы, і мяне запрашаў, але чаго было мне лезці ў гэтае балота?! Не люблю таўкатні! Сяброўкі расказвалі ўсім пра тое, як ён іх запрашаў, а я не сказала нікому ані слоўца. Мне было сорамна толькі за тое, што ён мог мне штосьці такое прапанаваць.

А цяпер... яна мне адкрывае вочы на майго мужа. Ну, дык кажу, не вытрывала я і адгыркнулася. Кажу ёй: „Ты лепш у свайго мужыка дзяўчат палічы, а майго не чапляйся! Швагерку вунь на кожнай вуліцы маеш, а свайго мужа святым лічыш!"

Сяброўка мая з нейкім здзіўленнем глянула на мяне, пашарэла ў твары, адразу панікла. Мае словы былі ёй, як гром з яснага неба.

Бог мне сведкам, не хацела я гэтага рабіць, але ў парыве злосці сталася. Цяпер няма выйсця. Мы не сустракаемся, не гаворым. Я чула, што яна пасварылася з мужам і нават была гутарка пра развод. Што мне рабіць?

**Поля**

Даражэнькая Поля! Ужо нічога не зробіш. Слова — не верабей, выскачыць — не зловіш. Але тут, на маю думку, шмат больш сяброўчынай віны. Яна не перажывала так як ты, калі раніла сваімі словамі цябе, сваю прыяцельку. А цяпер, пэўна, перажывае ўтрая, бо і заслужыла на гэта.

Нікога перапрашаць ты не мусіш. Праглыні спакойна гэту горкую пілюлю.

**СЭРЦАЙКА**